незалежная газета

№ 19 (713) 18 мая 2011 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## «Я толькі што размаўляў з прэзідэнтам Расіі Дзмітрыем Мядзведзевым»

Старонка 3

## Статкевіч: «Сядаць у крэсла Сідорскага» мне прапаноўваў бізнэсовец Сманцэр

Старонка 6



## Хто адкажа за «казла»?

Старонка 10

## Нагадаем: Лукашэнка хоча закрыць «Нашу Ніву»

Рэакцыі чытачоў

**Не магу выказаць словамі свой гнеў**

Маю любімую газету на роднай матчынай мове збіраюцца зачыніць. Не магу выказаць словамі свой гнеў адносна гэтага. Я «Нашу Ніву» выпісваў і выпісваю, бо на пошце і ў кіёску «Саюздрук» цяжка яе купіць. Дарагія супрацоўнікі газеты, ведайце, што вас людзі паважаюць і любяць, удзячны, што вы даяце поўную і праўдзівую інфармацыю.

Прашу, пры любых абставінах, даць мне магчымасць чытаць «Нашу Ніву».

**Уладзіслаў Пілячынскі, Докшыцкі раён**

Працяг тэмы — **старонка 2.**

## У нумары





ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ

# Прэзідэнцкі тэрмін

Экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў атрымаў 5 гадоў турмы. Карэспандэнты «Нашай Нівы» прысутнічалі на шакуючым судзе ад званка да званка. **Старонка 5.**

# Дзе знайсці валюту?

Калі нехта купляе даляры і еўра, то гэта зможаце зрабіць і вы. Але як і дзе?

**У абменніку**. Як бы смешна гэта ні гучала, але знаходзяцца тыя, хто здае валюту, і тыя шчаслівчыкі, якія яе пасля купляюць. Праўда, давядзецца адзначацца ў спісах ахвотных, адстаяць некалькі дзён—тыдняў у чэргах... і атрымаць запаветныя $200—300 па курсе **4500 рублёў.**

**Угаварыць «Беларусбанк».** Галоўны банк краіны паабяцаў прадаваць валюту «на сацыяльныя патрэбы». Калі вам патрэбныя грошы на лячэнне за мяжой, у вас цяжка захварэлі ці памерлі замежныя родзічы альбо вы вучыцеся не ў Беларусі, то можна напісаць спецыяльную заяву ў любым аддзяленні «Беларусбанка». Але банк гатовы прадаваць валюту і «на іншыя мэты». Значыцца, трэба як мага больш трагічна апісаць свае іншыя мэты. Тады даляр будзе каштаваць таксама **4500 рублёў.**

**На «Пракаповічы».** Сайт prokopovi.ch, які называе сам сябе «першым у свеце электронным пунктам наяўнага валютнага абмену» змяшчае дзясяткі прапаноў ад ахвотных прадаць і купіць валюту. Курс продажу звычайна на 1000 рублёў даражэйшы, чым у абменніках. Карацей, дастаткова знайсці патрэбную аб'яву, сустрэцца з прадаўцом у абменніку і даплаціць яму розніцу курса. У выніку за адзін даляр давядзецца аддаць прыблізна 6000—6500 рублёў.

**За мяжой.** Пакуль у Беластоку, Вільні і Смаленску яшчэ не адмаўляюцца ад беларускіх рублёў, хоць і паглядаюць на беларусаў коса... Замежны курс расце фактычна штодзень. Курс у Вільні складае **8000 рублёў**.

**У валютчыкаў.** Самы небяспечны, але і самы хуткі варыянт. Дастаткова запытацца каля абменніка, дзе паблізу ёсць валютчык, падсесці ў машыну і груба парушыць заканадаўства Беларусі. Кошт такога «чорнага» даляра — каля **6000 рублёў**.

**Яўген Васількоў**

## Гран-пры «Belarus Press Photo-2011»

атрымаў фотакарэспандэнт «Нашай Нівы» Сяргей Гудзілін.

13 мая ў Мінску прайшла цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў конкурсу прафесійных фотарэпарцёраў Беларусі. Canon EOS 7D, які адыграў ролю галоўнага прыза, паедзе ў Жодзіна разам з Сяргеем Гудзіліным.

Малады фатограф атрымаў Гран-пры за фота, зробленае падчас службы ў войску. Мяркуючы па рэакцыі, узнагарода стала для яго вялікай нечаканасцю. «Дэмбель непазбежны!» — толькі і змог выцiснуць з сябе Сяргей, пазуючы з узнагародай перад фотакамерамі. Яно вядома — фатографу роля мадэлі не зусім звычная.

Сяргей Гудзілін нарадзіўся ў 1987-м у Жодзіне. Як фатограф і як рэпарцёр — самавук. Ягоным універсітэтам быў Малады Фронт.

**Алесь Пілецкі**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Лукашэнка хоча закрыць «Нашу Ніву»

Рэакцыі чытачоў.

### Згубіць «Нашу Ніву» для нас — трагедыя

На працягу многіх гадоў мы з задавальненнем чытаем любімую газету. Набываем газету праз «Белпошту».

Апошні год мы выпісваем 2 экзэмпляры на адну сям'ю. Наша мэта — каб газету змаглі прачытаць нашы родзічы і сябры. Беларускамоўнае выданне задавальняе інтарэс усяго беларускамоўнага асяроддзя і з'яўляецца вялікай каштоўнасцю сярод прыхільнікаў беларускасці. Я маю 66 гадоў, мне пашанцавала ў тым, што я ў дзяцінстве закончыў агульнаадукацыйную школу ў вёсцы з беларускамоўным навучаннем і па магчымасці размаўляю на мове сваіх бацькоў. Згубіць газету для нас — трагедыя. Маем намер і надалей атрымліваць «Нашу Ніву». Маіх прыхільнікаў будзе вельмі многа.

**Анатоль Дунецкі, Салігорск**

### Гэта шкодніцтва

З'яўляюся даўнім падпісчыкам «Нашай Нівы». З цікавасцю чытаю «Народную Волю». Лічу, што ліквідацыя гэтых газет:

парушыць мае правы, у прыватнасці, гарантаванае арт. 34 Канстытуцыі, права на атрыманне «поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі»;

нанясе шкоду беларускаму грамадству.

Прашу адклікаць зыск пра спыненне выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».

**Віктар Адзіночанка, Гомель**

### Першы раз я прачытала Вашу газету

летам прошлага года. А пасля сумнавядомых падзей снежня 2010 года я стала пастаяннай чытачкай вашай газеты і газеты «Народная Воля». Я спадзяюся, што Вам удасца перамагчы, адстаяць сваю газету.

**Аксана Шарамета, Брэст**

### Ваша газета патрэбна

Шаноўныя сябры! Заўсёды з Вамі. І надалей Ваша газета мне патрэбна.

**Л.Ліцвінава, Мінск**

### Для мяне ўлады перастануць існаваць

Для мяне «Наша Ніва» — гэта акно ў свет. Гэта нітачка, што звязвае мяне з роднай мовай, з мовай, якую я чуў ад таты і мамы, цяпер ужо нежывых.

Не ведаю, як я буду без «Нашай Нівы».

Для мяне ўлады перастануць існаваць, калі яны зачыняць апошнія нашы газеты на мове. Проста перастануць існаваць. Я іх больш не буду прызнаваць і ўсіх буду агітаваць, каб іх ігнаравалі.

**Іван Дзямянчук, Мінск**

### Хачу атрымліваць «Нашу Ніву» і надалей

Я падпісваўся на газету праз «Белпошту». Цяпер, калі над газетай павісла рэальная пагроза закрыцця, я вельмі хачу атрымліваць яе і надалей.

Жыве Беларусь!

Жыве вечна!

Жыве з Богам!

**Фелікс Шкірманкоў, Слаўгарад**

### Паважаная «Наша Ніва»!

Дзякую Вам за ўсё, што Вы зрабілі і яшчэ зробіце.

Буду Вам удзячная, калі газета будзе прыходзіць у маю паштовую скрынку нягледзячы ні на што.

**Ірына Церахава, Мінск**

## Што рабіць чытачам?

Каб надалей атрымліваць газету, дашліце свае адрасы ў Рэдакцыю.

1. Як і ў 2005 годзе, калі газету выганялі з «Белсаюздруку» і «Белпошты», просім усіх, хто хоча і надалей чытаць «Нашу Ніву», паведаміць нам свае паштовыя адрасы. Кантакты тых, хто падпісваўся праз Рэдакцыю, мы маем. Просім тэрмінова даслаць свае кантакты тых, хто падпісваўся праз «Белпошту» або купляў газету ў кіёсках.

**Паведаміць Вашы адрасы можна праз электронную пошту dastauka@nn.by. Або праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, Skype: nashaniva. Або лістом на адрас: а/с 537, Мінск, 220050.**

Гэтыя ж кантакты — для сувязі з Рэдакцыяй па ўсіх пытаннях, звязаных з лёсам «НН».

2. **Чытайце сайт nn.by.** Калі раптам сайт nn.by стане недаступны, чытайце сайт **nnby.eu**, які прыйдзе яму на змену ў выпадку патрэбы.

### Самае чытанае на nn.by за 11 — 17 мая

1. «Гэта ўласць здохне!». У судзе пасля прысуду — відэа
2. Аляксей Вараб'ёў: «Это Россия, б…ь» — відэа
3. Андропаўшчына. У суботу на мінскія прадпрыемствы званілі з райвыканкамаў, патрабавалі звесткі пра работнікаў
4. Ланцуговая рэакцыя. Нацбанк даў дазвол на дэвальвацыю да 4500. Безнаяўны рубель тым часам абваліўся да 7000
5. Суд над палітвязнямі: анлайн-рэпартажы з судоў
6. Дэвальвацыя: Нацбанк дазволіў свабодны курс наяўнымі
7. Як фанера над Еўропай: Віннікава вывывае
8. НТВ пра «сямейны суд» у Беларусі і закрыццё «Нашай Нівы»
9. Саша Варламаў: Так, я — гей. Але ж я і чалавек
10. Маўродзі: «Аляксандр Рыгоравіч, выхад ёсць»

## Піша Вам асуджаны Парфянкоў

Магчыма, гэты ліст не выйдзе з зоны, магчыма, у мяне з-за яго будуць непрыемнасці з адміністрацыяй, але не напісаць яго я проста не магу.

Піша Вам асуджаны за падзеі 19 снежня 2010 года да чатырох гадоў строгага рэжыму Васіль Парфянкоў. Магчыма, гэты ліст не выйдзе з зоны, магчыма, у мяне з-за яго будуць непрыемнасці з адміністрацыяй, але не напісаць яго я проста не магу, спадзяюся, што ён усё-ткі знойдзе свайго адрасата. З глыбокім смуткам дазнаўся, што «Нашай Ніве» і «Народнай Волі» ізноў пагражае ліквідацыя. Хачу праз Вашу газету звярнуцца да Міністэрства інфармацыі, якое падало супраць вашых газет іск.

Паважаны Міністр, вашы калегі з МУС і КДБ пазбавілі мяне самага дарагога, што ёсць у чалавека, — свабоды, не пазбаўляйце нас адной з крыніц дакладнай інфармацыі. Я хачу нагадаць вам, што сваімі дзеяннямі вы парушаеце Канстытуцыю РБ, а менавіта арт. №34, у каторым сказана: «Кожны грамадзянін РБ мае права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд поўнай, своечасовай, праўдзівай інфармацыі». Таксама лічу, што вашы дзеянні замахваюцца і на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду думак і перакананняў і іх свабоднае выказванне. Прашу вас не рабіць памылкі, не парушаць закон і адклікаць сваю заяву.

Таксама праз вашу газету хачу падтрымаць усіх тых, хто ўжо асуджаны альбо чакае прысуду за падзеі 19 снежня 2010 г. Сябры, трымайцеся, цярпення вам і моцы перажыць усё гэта і не зламацца. Памятайце — з намі Праўда, а значыць, з намі Бог! Хочацца таксама выказаць аграмадную ўдзячнасць усім тым людзям, хто не забыў мяне і іншых палітзняволеных, усіх тых, хто моліцца за нас каля Чырвонага касцёла, хто піша лісты і паштоўкі, хто прыносіў перадачы на СІЗА. Аграмадны ўсім дзякуй і ўдачы вам ва ўсім, вам і вашым блізкім.

Верце, што рана ці позна ўсе мы, увесь беларускі народ, падымемся з каленяў і будзем жыць вольна ў вольнай краіне Беларусь.

Жыве Беларусь!

**Васіль Парфянкоў**
**Орша, ПК №8, 16 атрад**

## Таварыства беларускай мовы занепакоена

сітуацыяй вакол газет «Народная Воля» і «Наша Ніва».

Мы пераканаy, што ў рэдакцыі гэтых СМІ працуюць кваліфікаваныя журналісты, якія добра ведаюць гісторыю свайго беларускага народа, а таксама імкнуцца асвятляць няпростыя пытанні сучаснага жыцця нашай краіны. Сваімі публікацыямі, часам даволі вострымі, яны спрыяюць выхаванню ў чытачоў неабыякавага стаўлення да культуры Беларусі, адказнасці за лёс мовы, краіны. Мы лічым, што судовы пераслед гэтых газет пярэчыць дзяржаўным інтарэсам, парушае правы падпісчыкаў і чытачоў, значна пагаршае міжнародны імідж нашай краіны.

Мы звяртаемся да Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь з заклікам спыніць недарэчны працэс і даць магчымасць журналістам выконваць свой прафесійны абавязак. Упэўнены, што такі крок засведчыць прафесіяналізм суддзяў, павысіць давер да органаў улады сярод насельніцтва Беларусі.

Мы звяртаемся таксама да ўсіх грамадзян нашай краіны аказаць падтрымку беларускім выданням, якія на сваіх старонках нясуць чытачам праўдзівую інфармацыю пра гісторыю і сучаснае развіццё нашай радзімы і замежных краін.

**Сакратарыят ГА «ТБМ імя Ф.Скарыны»**

# Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

## Навіны сцісла

• **У Вільні даляр прадаюць за 7100 рублёў.** Папулярны віленскі абменнік Citadele на вакзале перайшоў на курс 7100 беларускіх рублёў за даляр. Здаць даляры можна па 5000 рублёў. Гэты абменнік стаў месцам паломніцтва беларусаў. Па стане на 17 мая большасць валютчыкаў Мінска гатовыя былі купляць даляры за 5 000 рублёў, а прадаваць за 5500–6000 рублёў.

• **Юры Шаўчук падпісаў паштоўкі беларускім палітвязням.** «Не бывае свабоды па ўзоры Лукашэнкі, свабода або ёсць, або яе няма», — заявіў вядомы расійскі рок-музыка. Каб падпісаць паштоўку палітвязню, не абавязкова ісці на пошту. Зрабіць гэта можна ў інтэрнэце, на сайце Pashtouka.org.

• **«Хонду» сутыкнула з «Мэрсам», адкінула ў слуп і ператварыла ў лом.** 15 мая ў Магілёве ўначы аўтамабіль «Хонда», якім кіраваў 23-гадовы вадзіцель, выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з «Мерсэдэсам». У выніку кіроўца, а таксама 23-гадовы і 24-гадовы пасажыры былі змешчаныя ў бальніцу. Яшчэ двое пасажыраў, 1988 і 1989 г.н., загінулі на месцы. 14—15 мая за кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення затрымана 366 вадзіцеляў.

• **Цёплае надвор'е вернецца.** У другой палове тыдня да нас накіруюцца цёплыя паветраныя масы з паўднёвага захаду Еўропы. У чацвер ціск вырасце, будзе пераважна без ападкаў. Днём паветра прагрэецца да 19–25 градусаў. У Гомельскай і Брэсцкай абласцях чакаецца да плюс 27. Прагназуюцца кароткачасовыя дажджы і навальніцы.

• **Фэст у гонар The Beatles у Віцебску.** Ён пройдзе 17—19 чэрвеня пад назвай «Ob-la-ki, Ob-la-ka». Весці яго будзе расійскі шоўмэн Дзмітрый Дзіброў. З сольным канцэртам выступіць Барыс Грабеншчыкоў. А тэатр Стаса Наміна паставіць мюзікл «Бітламанія». Сярод іншых удзельнікаў — блюзмэн Аляксандр Цыганок, гурты Flat, Beathoven, HeartBeat, The Apples. Арганізатары фестывалю гатовы прадставіць пляцоўку і для непрафесійных праектаў, прысвечаных The Beatles. Для гэтага трэба пісаць на oblakioblaka@gmail.com.

**ЯВ, КМ**

# БАЖ: Падтрымаем «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

«Калі справа дойдзе да суда, прадухіліць закрыццё газет будзе ўжо бадай немагчыма», — лічыць юрыст, намеснік старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец.

«Фармальна ў газет хапае папярэджанняў, каб суд, не ўнікаючы ў сутнасць справы, задаволіў зыскі Мініінфармацыі. Таму спыніць драматычнае развіццё падзеяў ёсць шанец толькі праз адкліканне зваротаў у суд», — лічыць юрыст.

Журналісцкая арганізацыя склала прыкладны ўзор звароту ў Мініінфармацыі, які можа накіраваць у гэтае ведамства любы грамадзянін Беларусі — чытач газеты, занепакоены рашэннем Мінінфарма.

Звароты можна накіроўваць заказным лістом альбо пакінуць у кабінеце № 519 Міністэрства інфармацыі.

Прыкладны ўзор самага простага звароту:

*Міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь*
*Праляскоўскаму Алегу Вітольдавічу*
*220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11.*
*Прозвішча, імя, імя па бацьку, дадзеныя пра месца жыхарства і (альбо) працы (вучобы)*

*Зварот*

*З паведамленняў СМІ я, (прозвішча, імя, імя па бацьку), даведаўся, што Міністэрства інфармацыі звярнулася ў суд з зыскам пра закрыццё газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Я з'яўляюся даўнім чытачом указаных выданняў. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушае мае канстытуцыйныя правы — у прыватнасці, права на атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі (арт.34 Канстытуцыі РБ). Лічу, што такія дзеянні Міністэрства інфармацыі замахваюцца і на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.*

*Прашу адклікаць іск пра спыненне выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Адказ на ўказаны зварот прашу даць у парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законам «Аб зваротах грамадзян».*

*Дата, подпіс*

Акрамя таго, можна пакідаць свае заўвагі і прапановы ў Кнізе скаргаў і прапаноў, якая знаходзіцца ў кабінеце № 519 у намесніка кіраўніка справамі Міністэрства інфармацыі (г. Мінск, пр-т Пераможцаў, 11), тэл. 306-32-90. Тэлефон «гарачай лініі»: 203-92-31.

**Беларуская асацыяцыя журналістаў**

Копіі зваротаў прышліце ў Рэдакцыю, каб мы маглі выкарыстаць іх у судзе.

# Лукашэнка: Расія гатовая даць Беларусі крэдыты на $6 мільярдаў

А Мяснiковiч гатовы прасіць грошы і ў «аўтарытэтнага» МВФ.

17 мая дзяржаўныя СМІ растыражавалі заяву Аляксандра Лукашэнкі. Прымаючы з дакладам прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча, ён раптоўна паведаміў: «Я толькі што размаўляў з прэзідэнтам Расіі Дзмітрыем Мядзведзевым. Ён патэлефанаваў мне. У нас ідуць перамовы з Расійскай Федэрацыяй аб прадастаўленні стабілізацыйнага крэдыту на падтрыманне курса беларускага рубля. Па ўсіх перамовах яны гатовыя да таго, каб тэрмінова, калі гэта трэба, і не тэрмінова, калі гэта нам не трэба, адрэагаваць на гэта. І гэта прыкладна $3,1 мільярда».

Расійскі крэдыт — апошняя надзея Лукашэнкі на выратаванне рубля ад абвалу.

Але нагадаем, што менш за тыдзень таму міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын растлумачыў, што яго краіна не збіраецца выдзяляць Беларусі дзяржаўны крэдыт. Ён параіў Лукашэнку заняцца прыватызацыяй, удакладніўшы, што адзіная магчымая дапамога сёлета — з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС памерам $1 мільярд.

17 мая Лукашэнка загаварыў не проста пра $3 мільярды, але яшчэ і пра нейкія дадатковыя грошы: «Прыкладна $3 мільярды — гэта будучыя продажы нашых тавараў. Нас гатовыя пракрэдытаваць». Усяго, такім чынам, шэсць.

Эканамісты не зразумелі гэтай заявы кіраўніка Беларусі. «Крэдытуюць купца, а не прадаўца», — разводзіць рукі эканаміст Сяргей Чалы.

Расійскі бок пацвердзіў факт тэлефоннай размовы, але абмежаваўся сціслай інфармацыяй: «Кіраўнікі дзяржаў абмяняліся меркаваннямі па ключавых тэмах двухбаковай павесткі дня».

Адзін з магчымых варыянтаў раптоўнай дабрачыннасці Мядзведзева і Пуціна быў «зліты» крыніцай у расійскім кіраўніцтве агенцтву «Інтэрфакс». Ён зводзіцца да продажу Расіі кантрольнага пакета акцый «Белтрансгаза».

Апроч таго, словы Лукашэнкі наконт памеру крэдыту падазрона нагадваюць ранейшыя заявы Уладзіміра Пуціна наконт крэдыту на будаўніцтва беларускай АЭС. Там таксама фігуравалі загадкавыя $6 мільярдаў.

Сітуацыю зусім заблытаў Міхаіл Мясніковіч. У часе той жа размовы з Лукашэнкам ён заявіў, што Беларусь не выключае магчымасці звароту па грошы і да МВФ. «Мы можам прагназаваць далейшае развіццё падзей у адносінах з гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыяй», — сказаў ён.

**Яўген Васількоў**

## Цярпенне Еўропы на зыходзе

ЕС можа ўвесці эканамічныя санкцыі супраць лукашэнкаўцаў.

У Брусэлі вывучаюцца магчымыя эканамічныя санкцыі ў дачыненні да Беларусі. Пра гэта паведамляе бельгійскае выданне Euobserver са спасылкай на дыпламатычную крыніцу. Кіраўнікі пасольстваў краін ЕС у Мінску ўжо адправілі ў Брусэль папярэдні спіс асоб і прадпрыемстваў, у дачыненні да якіх разглядаецца магчымасць увядзення новых абмежавальных мер, паведамляе Euobserver. У гэтым спісе, у прыватнасці, дзяржканцэрн «Белнафтахім», група кампаній «Трайпл», кампанія «Белтэхэкспарт» і ААТ «Беларуськалій».

Брусэльскае выданне адзначае, што новыя санкцыі, у задуме еўрапейцаў, «павінны ўдарыць па бюджэце прэзідэнта Лукашэнкі, не прынёсшы крызісу ў эканоміку краіны».

Спіс можа быць гатовы ўжо да наступнага пасяджэння Рады міністраў па замежных справах ЕС, якое пройдзе ў Брусэлі 23 мая.

Еўрапейцы абураныя варожым курсам Мінска і рэпрэсіямі ў Беларусі.

**Паводле БелаПАН**

## «Чым меней яны будуць бываць на Захадзе, тым будзе лепш»

Прапагандысты рыхтуюць грамадскую думку да забароны на выезд.

Ёсць падставы для забароны на выезд некаторых беларускіх грамадзян, чые дзеянні за мяжой наносяць шкоду інтарэсам Беларусі. Пра гэта заявілі лукашэнкаўскія прапагандысты ў эфіры БТ 14 мая.

«Некаторыя прадстаўнікі так званай апазіцыі да 40 разоў выязджаюць за мяжу і вядуць такое бязбеднае існаванне», — адзначыў рэдактар часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін. Прычым людзі гэтыя нічога з сябе не ўяўляюць, лічачы сябе праваабаронцамі, грымеў ён.

На думку калегі Гігіна па «партыі», Сяргея Мусіенкі, «у той час як многія беларускія міністэрствы, ведамствы накіроўваюць свае высілкі на тое, каб наладзіць адносіны з Еўрапейскім Саюзам, зрабіць імідж краіны пазітыўным, у гэтых людзей іншая задача. Таму, чым меней яны будуць бываць на Захадзе, тым, напэўна, будзе лепш для іміджу краіны».

Варта адзначыць, што законных асноваў для абмежавання перамяшчэння асобных грамадзянаў няма. Такое рашэнне можа быць прынятае толькі ў парушэнне правоў чалавека. Калі выезд за мяжу будзе забаронены камусьці аднаму, то гэта можа быць зроблена і ў дачыненні да кожнага іншага грамадзяніна.

«Папярэдні спіс [каму будзе забаронены выезд] уключае больш за 200 чалавек», — заявіла агенцтву «Інтэрфакс» крыніца ў Адміністрацыі прэзідэнта. Маўляў, гэта будзе адказам на магчымыя эканамічныя санкцыі з боку ЕС.

Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч ужо звярнуўся ў пракуратуру з просьбай даць прававую ацэнку гэтым выказванням. На думку Губарэвіча, яны парушаюць арт. 190 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (парушэнне раўнапраўя грамадзян).

**Кастусь Матушыч**

## Дзверы коштам мільярд рублёў

У Бабруйску судзяць юнакоў, якія падпалілі будынак КДБ.

Сведка Ібрагімаў, які так і не з'явіўся на працэсе, расказаў следству, што ў 23.30 16 кастрычніка чакаў транспарту на вуліцы Пушкіна ў Бабруйску і пабачыў трох чалавек. Потым у руках аднаго з іх шуганула полымя і ў бок уваходных дзвярэй будынка бабруйскага ўпраўлення КДБ нешта паляцела. Потым пачуўся гук бітага шкла, успыхнуў вялікі агонь. Іншы юнак таксама кінуў нешта запаленае. А потым усе трое пабеглі ў двары.

Гэтыя трое — Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка і Павел Сырамлотаў — затрыманыя. Іх абвінавачваюць па арт. 339 ч.2 КК — «Асабліва злоснае хуліганства». Ім пагражае ад 7 да 12 гадоў турэмнага зняволення.

Адказваючы на пытанне следчых аб мэце акцыі, адзін з абвінавачаных, Яўген Васьковіч, адказаў коратка — каб запалохаць КДБ і выказаць свой пратэст.

Пашкоджаныя дзверы пазоўнікам былі ацэненыя ў мільярд рублёў. Першапачаткова матэрыяльныя страты будынка бабруйскага КДБ ацэньваліся ў 85 тысяч рублёў, але на судовым пасяджэнні 5 мая фігуравала ўжо лічба 1 мільярд.

Абвінавачаныя прызналі віну, але не пагаджаюцца з памерам матэрыяльнай шкоды. Свае дзеянні яны паўтарылі ў часе следчага эксперыменту, зафіксаванага на відэа.

На відэа Васьковіч падрабязна распавядае аб этапах вырабу «кактэйля Молатава». Атрыманае рэчыва разлівалі ў бутэлькі з-пад «чарніла», рыльцы якіх затыкалі тканінай. Разліў адбываўся на 5-м бастыёне Бабруйскай крэпасці.

Суддзя зачытаў пратакол яўкі з павіннай Сырамлотава.

Было таксама паведамлена, што на флэш-дысках, вынятых у Васьковіча, сустракалася слова «падпал», а таксама тэкставы дакумент аб прынцыпах партызанскай барацьбы. Васьковіч сказаў, што гэтыя словы можна было знайсці дзе заўгодна, а дакументаў аб партызанскай барацьбе на яго тэхніцы не было.

Васьковіч прамаўляў пабеларуску. У суд ён з'явіўся ў саколцы з надпісам «Жыве Беларусь!» і бел-чырвона-белым сцягам. Васьковіч, як выглядае, перакананы праціўнік існуючай дыктатуры. Ён мае нацыянальныя і анархісцкія погляды адначасова.

Пра двух іншых фігурантаў справы вядома няшмат. Арцём Пракапенка сам з Гродна. У Бабруйску ён вучыўся. Павал Сырамлотаў працаваў сталяром. Пракапенка адносіў сябе да анархістаў. Сырамлотаў не належаў ні да якіх арганізацый.

«Я ўжо падрыхтаваўся атрымаць як мінімум год 10», — напісаў Яўген Васьковіч у сваім поўным спакою лісце ў «Нашу Ніву».

Напады на будынкі спецслужбаў, зафіксаваныя ў 2010 годзе, былі, бадай, першымі ад 1950-х гадоў. Яны насілі хутчэй сімвалічны характар, але сам факт іх адлюстроўвае рост сацыяльнай напружанасці ў грамадстве.

**Сяргей Гудзілін**

# Нясконччаная дэвальвацыя

**Нацбанк дазволіў купляць даляры ў людзей за 4500 рублёў, але курс даляра для прадпрыемстваў дасягнуў ужо больш за 7000 рублёў.**

11 мая, роўна праз месяц пасля тэракта ў мінскім метро, Нацбанк афіцыйна абвесціў тое, пра што насельніцтва і так даўно ведала, — дэвальвацыю.

Сама ідэя вызваліць курс рубля была цалкам рынкавай, але выкананне засталося адміністрацыйна-планавым. Нацбанк негалосна абмежаваў курс адзнакай у 4000 рублёў, дазволіўшы толькі 30%-ную дэвальвацыю. Усе без выключэння банкі краіны выставілі аднолькавы курс продажу валюты. Палавінчатая мера ніякім чынам не палепшыла сітуацыі — беларусы масава не ламануліся ў банкі здаваць валюту, а чэргі ля абменнікаў не зніклі.

### Пракаповіч не ўратаваў

Блізкія да Нацбанка інфарматары заявілі, што такі курс будзе трымацца да сканчэння тыдня, а пасля Пятро Пракаповіч, які акурат збіраўся выходзіць на працу, адпусціць рубель у свабоднае плаванне. Іх прагноз аказаўся блізкім да рэальнасці, але недакладным. Герой Беларусі Пракаповіч сапраўды правёў у панядзелак, 16 мая, нараду, але пасля зноў узяў бальнічны і выпаў з кіраўніцтва банкам на невядомы тэрмін. А вось рубель яшчэ крыху адпусцілі — па стане на аўторак курс даляра абмежаваны 4500 беларускімі рублямі.

Але бяда ў тым, што за мінулы тыдзень рэальны курс міжбанкаўскага рынку рвануў далёка наперад. Валюту па 4500 у абменніках не купіць, бо насельніцтва чакае далейшага падзення рубля. А ў Нацбанка, відаць, проста няма валюты, каб насыціць рынак.

Выходзіць, што сваімі дзеяннямі ўлады толькі нагнятаюць паніку.

### Эканамічная анархія

Здаецца, што шляхоў элегантнага выхаду з працяглага крызісу не бачыць ніхто. «Ад Нацбанка амаль нічога не залежыць, — кажа эканаміст Сяргей Чалы. — У дзяржавы няма рэсурсаў для кіравання сітуацыяй. Усё, што застаецца, — адпусціць даляр і задраць стаўкі па рублёвых дэпазітах».

Гэта тая стратэгія, якую на мяжы 1994—1995 гадоў узяў на ўзбраенне тагачасны старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. Атрымаўшы крэдыт ад Міжнароднага валютнага фонду, ён адпусціў курс валюты і рэзка ўзняў стаўку рэфінансавання.

Такім спосабам тады яму ўдалося зацугляць гіперінфляцыю і дэвальвацыю. Менавіта тады ў людзей пачала вяртацца вера ў сваю нацыянальную валюту.

### У марнай пагоні за курсам

Дазволены Нацбанкам курс 4500 рублёў за даляр усё адно істотна адстае ад курса на міжбанку. Камерцыйныя банкі ў аўторак прадавалі прадпрыемствам даляры за 6500—8000 рублёў. Неабходная ўмова для стабільнасці сітуацыі — роўнасць курса. Але Нацбанк не атрымлівае ад прэзідэнта дазволу на змену палітыкі. Улады ўпарта не хочуць прызнаваць таго факта, што заробак у 500 даляраў — дзьмуты, што гэта папулісцкая дэмагогія. Разнабой у курсах дазваляе прыкрываць рэальнасць фігавым лістком статыстыкі. Абсурднасці сітуацыі дадае той факт, што лукашэнкаўцы спрабуюць перакласці адказнасць за крах рубля на насельніцтва. Сам Лукашэнка не раз абвінавачваў людзей, што яны «паддаліся паніцы» і «кінуліся купляць машыны», што, маўляў, і прывяло да ажыятажу на валютным рынку.



### Сапраўдны крызіс яшчэ наперадзе

Між тым дэвальвацыя стала лагічным вынікам эканамічнага курса краіны. Краіна доўгія гады жыла не па сродках. Усе апошнія гады Беларусь стабільна праядала на 10–15% больш, чым зарабляла. Пасля 2006 года, калі Расія ўзняла цэны на газ, замежная запазычанасць нарастала на $5–6 мільярдаў штогод. Больш за тое, Беларусь апынулася ў татальнай эканамічнай, палітычнай і фінансавай залежнасці ад Расіі. Нават маючы найтаннейшыя ў Еўропе газ і нафту, Беларусь пагрузілася ў глыбокі фінансавы крызіс.

Наступныя гады беларусам не выпадае чакаць манны нябеснай. Па выніках 2011 года замежная запазычанасць краіны можа дасягнуць 65% ад ВУП. Краіне могуць перастаць даваць замежныя крэдыты. У той жа час на 2012–2013 гады прыпадзе пік выплат па крэдытах, атрыманых у 2006–2008-м. Краіну чакаюць гады жорсткай эканоміі і не менш жорсткага расійскага ціску. Масква паспрабуе скарыстацца з беларускай фінансавай катастрофы, праводзячы аперацыю па змушэнні да прыватызацыі.

**Яўген Васількоў, Сяргей Гезгала**

| Валюта | Курс Нацбанка на 01.01.2009 | Курс абмена валют на 16.05.2011 | Узровень дэвальвацыі беларускага рубля |
|---|---|---|---|
| Даляр | 2 200 | 4 500 | 105% |
| Еўра | 3 077,14 | 6 430 | 109% |
| Расійскі рубель | 76,89 | 162 | 111% |
| Злоты | 749,88 | 1 625 | 117% |
| Юань | 321,44 | 695 | 116% |
| Літ | 890,98 | 1 851 | 108% |
| Лат | 4 354,28 | 9 010 | 107% |
| Грыўня | 273,29 | 566 | 107% |
| Рост заробкаў (па дадзеных Белстата) за той жа час — 53,6% | | | |

## Адбудаваліся

**Дзяржава спыняе заключэнне 5%-ых льготных крэдытаў на будаўніцтва?**

На працягу апошніх двух гадоў жыхары Мінска, якія знаходзяцца ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў, маглі заключыць дамову з прыватным забудоўшчыкам і аформіць 5%-ны льготны крэдыт тэрмінам на 20 гадоў. Гэта магчымасць у іх была незалежна ад часу пастаноўкі ў чаргу. Прапанова дазваляла пачаць будаўніцтва маладым сем'ям, якія мелі стартавы капітал (каля $5—15 тысяч), але не хацелі чакаць у чарзе 20 гадоў. Нягледзячы на тое, што, паводле афіцыйных каментароў Мінгарвыканкама і «Беларусбанка», ніякіх зменаў у заканадаўчыя акты пакуль не ўносілася, новыя крэдытныя лініі не афармляюцца. З гэтым сутыкнуліся мінчане, якія падавалі дакументы ў апошнія дні. «Няма грошай», — шчыра тлумачаць ім супрацоўнікі банкаў.

Выплаты па раней адкрытых крэдытных лініях аднавіліся і пакуль што працягваюцца.

**ЯВ**

## Хто ўключыў грашовы станок?

**За месяц рублёвая маса павялічылася на 4 трыльёны рублёў.**

Красавік 2011 года адзначыўся рэзкім ростам грашовай масы. За красавік аб'ём наяўных грошай у Беларусі вырас амаль на трыльён рублёў — на 21,3%. Для параўнання: за студзень—сакавік 2011 грашовая маса павялічылася толькі на 2,2%.

Такую статыстыку апублікаваў Нацбанк.

Рублёвая грашовая маса (сума наяўных беларускіх рублёў, рублёвых дэпазітаў і каштоўных папер у рублях) за месяц вырасла ажно на 4 трыльёны — на 14% — і дасягнула 30,5 трыльёна.

Рэзкі рост рублёвай масы прыводзіць да яшчэ большага абясцэньвання беларускіх рублёў. Хто дазволіў уключыць грашовы станок? Аказалася, што... сам Нацбанк!

Рэч у тым, што ў рамках дырэктывы аб падтрымцы прадпрымальніцтва было прынятае рашэнне аб спрашчэнні доступу малога бізнэсу да наяўных сродкаў. Згодна з ім, прадпрымальнікі могуць замаўляць неабходны ім аб'ём наяўных грошай. Яны не могуць набыць валюту за безнаяўныя рублі, але, фактычна, могуць купляць наяўныя даляры ў валютчыкаў.

«Малы бізнэс імкнецца выжываць як можа — у яго ёсць магчымасць неабмежаванай працы з наяўнымі і яму патрэбна валюта. Як вынік — рэзкі рост наяўных рублёў у звароце і ўмацаванне ценявога валютнага рынку, — канстатуе ананімны эксперт лукашэнкаўскага агенцтва «Інтэрфакс-Захад». — Нацбанк быў вымушаны выконваць заяўкі на наяўныя грошы, бо ў адваротным выпадку адмова азначала б сабатаж прэзідэнцкай дырэктывы».

**ЯВ**

## Валюта для прэзерватываў

**Нацбанк вызначыў спіс медыкаментаў, валюта на набыццё якіх выдзяляецца ў першую чаргу.**

У банкі разасланы пералік кодаў медыкаментаў, якія могуць уключацца ў заяўкі на набыццё валюты на біржы. Агулам налічылі 83 пазіцыі. У прыватнасці, у пералік уключаныя полівітамінныя комплексы, спіртавыя настойкі, вазелін, прэзерватывы, ветпрэпараты, вата.

Нагадаем, што з 1 красавіка продаж валюты па афіцыйным курсе адбываецца зыходзячы з наступных прыярытэтаў: медыкаменты, газ, валютныя крэдыты.

Раней тэрмін «медыкаменты» не расшыфроўваўся, што выклікала праблемы ў беларускіх фармпрадпрыемстваў, якія не маглі набыць валюту для імпарту субстанцый і расходных матэрыялаў для ўласнай вытворчасці. Фіксаваныя розничныя цэны на лекі рабілі бізнэс стратным.

**ЯВ**

### Сцісла

• **Стаўка рэфінансавання — 14% гадавых.** З 18 мая стаўка рэфінансавання павышаецца на 1% і складзе 14%. Пасля дэвальвацыі 2009 года былі выстаўлены такі самы паказчык.

• **Лукашэнка прыняў рашэнне будаваць завод па вытворчасці грыбоў.** Даручана вызначыць месца пад будучае прадпрыемства ў адным з малых гарадоў.

• **МТС пакуль не прадаецца.** Беларусь адкладае рашэнне аб продажы дзярждолі ў сотавым аператары. Раней было заяўлена, што краіна ацаніла 51% акцый на мільярд долараў.

• **Валюту — у слоікі.** У красавіку беларусы забралі з банкаў амаль 10% валютных укладаў. Гэта амаль $460 мільёнаў.

**ЯВ**

# Прэзідэнцкі тэрмін

**Экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў атрымаў 5 гадоў турмы.**

Алег Гнедчык асуджаны на тры з паловай гады, Ільля Васілевіч, Фёдар Мірзаянаў, Уладзімір Яроменак — на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Андрэй Саннікаў атрымаў цэлых пяць.

У Партызанскім судзе сталіцы вынеслі чарговы прысуд па справе аб так званых «масавых беспарадках». Так лукашэнкаўцы назвалі шматтысячную дэманстрацыю ў Мінску ў дзень выбараў. Людзі патрабавалі сумленнага падліку галасоў і павагі да правоў чалавека.

Завяршэнне судовага працэсу праходзіла па звыклай схеме: хадайніцтвы адвакатаў і падсудных былі адхіленыя, высокіх чыноўнікаў на допыт не выклікалі. Так, адвакатка Саннікава прасіла выклікаць у суд начальніка ўпраўлення ДАІ Мінгарвыканкама Дзмітрыя Карзюка, але ён так і не з'явіўся ні на адзін працэс, хаця неаднаразова фігуруюць яго пісьмовыя сведчанні. На папярэднім следстве Карзюк сцвярджаў, што Саннікаў разам з жонкай Ірынай Халіп і іншымі кандыдатамі прарвалі ланцуг з супрацоўнікаў ДАІ, пасля чаго дэманстранты выйшлі на праспект Незалежнасці.



**«Я люблю цябе, Федзя!» — крычала сыну Людміла Мірзаянава. Яе не дапусцілі ў залу пасяджэнняў.**



**Фёдар Мірзаянаў вёў сябе ў судзе як герой.**

Фёдар Мірзаянаў заявіў хадайніцтва аб магчымасці прысутнічаць у зале яго маці і сваякоў, якіх суддзя выдаліла раней. «Мае сябры не могуць трапіць у залу, бо нейкія падонкі займаюць тры апошнія шэрагі», — сказаў Мірзаянаў. Суддзя Чацвярткова вынесла яму папярэджанне. Адзін з хлопцаў на заднім шэрагу адгукнуўся: «Я б з радасцю сышоў».

На працэсе заслухалі тэлефонныя размовы Андрэя Саннікава. Запісы прадставілі «Белтэлекам» і апаратар сотавай сувязі Velcom. Аказваецца, кандыдата пісалі ад верасня пачынаючы. Саннікаў назваў праслухоўванне яго размоваў умяшальніцтвам у прыватнае жыццё. Суддзя ж у адказ на гэта прыняла толькі рашэнне праслухаць запісы на закрытым пасяджэнні. У ЗША ў свой час праслухоўванне канкурэнта прывяло да імпічменту прэзідэнта Ніксана. У Беларусі гэтых запісаў нават не хавалі.

Галоўнай сенсацыяй працэсу стала заява Андрэя Саннікава пра катаванне ў СІЗА КДБ. Палітык сказаў, што сведчанні даваў пад ціскам.

**Кастусь Матушыч**

# Саннікаў: Я быў у скоцкім стане, пад нарамі

**Экс-кандыдат у прэзідэнты заявіў у судзе, што ў КДБ яго катавалі.**

Фактычна, ён паўтарыў тое, што казаў раней Алесь Міхалевіч. Старая маці Саннікава заплакала, калі слухала гэта.

«Моцна збітага мяне адвезлі ў СІЗА, пратрымалі пяць гадзін у памяшканні без магчымасці нават схадзіць у туалет. Потым перавялі ў камеру без месцаў, пад нарамі, з хворай нагой, там было вельмі цяжка знаходзіцца».

«У камеры вельмі холадна, — расказаў ён. — Нават калі далі месца, то ляжаў тварам да святла, прымушалі не мяняць позы. Калі я засынаў і пераварочваўся ў сне, то будзілі ўсю камеру і прымушалі легчы ў тую ж позу.

Зноў перавялі ў іншую камеру, пад нары. Цябе выводзяць з камеры з усімі рэчамі — матрац, пасцельныя рэчы, гоняць па крутой лесвіцы ўніз, людзі ў масках. Яны былі добра падрыхтаваныя, агрэсіўныя. Калоцяць дубінкамі па лесвіцы, сценах, крычаць нечалавечымі галасамі. Заводзяць у сутарэнні, дзе раздзяваюць дагала. Ставяць на расцяжку да сценкі. Прымушаюць прысядаць, нягледзячы на тое, што ў мяне хворая нага.

Потым дазваляюць адзецца. У прысутнасці трох чалавек у масках. Такое рабілася штодзённа. Я быў пазбаўлены права на перапіску.

Людзі ў масках дазвалялі ўдары дубінкамі па спіне, тычкі. Я быў у скоцкім стане, пад нарамі, з хворай нагой.

Рэкамендавалі пісаць заяву на імя Лукашэнкі, як іншых кандыдатаў. Я даведаўся, што майго сына хацелі скрасці службы апекі. Мне было сказана КДБшнікамі, калі я хачу дапамагчы жонцы, то я павінен даваць паказанні.»

«31 снежня ў мяне была прымусовая гутарка са старшынёй КДБ Вадзімам Зайцавым, які пагражаў жыццём і здароўем жонкі і дзіцяці. Калі я адмовіўся, то Зайцаў сказаў, што супраць іх будуць больш жорсткія метады. Я быў уражаны. І зразумеў, што ад мяне залежыць жыццё жонкі і дзіцяці.»

Вось што, па словах Саннікава, было далей:

«Потым стаў працаваць аператыўнік Фяцісаў, які, згодна з заяўленымі Зайцавым тэмамі, рыхтаваў мяне да допытаў, казаў, якія тэмы яго цікавяць: пытанні фінансавання, кантактаў з замежнікамі. Перад першым допытам было абумоўлена, як я павінен асвятляць тыя ці іншыя тэмы.

Фяцісаў прыйшоў і на допыт, каб пераканацца, што я буду даваць неабходныя паказанні. Быў складзены падрабязны план майго допыту, следчы папярэдзіў, што спасылкі на Канстытуцыю, на тое, што я адмаўляюся ад паказанняў, не будуць прымацца.

У мяне моцна забалела пячонка перад першым допытам. Але я не баяўся гэтага болю, я баяўся, што не змагу даць паказанні, якія дапамогуць жонцы. Мне было адмоўлена ў адвакацкай абароне.

Упершыню 22 сакавіка сам-насам я змог сустрэцца з адвакатам.

Нават мае патрабаванні даць мне дакументы, Канстытуцыю і Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека не былі задаволеныя.

Адвакату на допытах адводзілася роля статыста. Забаранялі нават глядзець на адваката. На ўсіх допытах у мяне было дрэннае самаадчуванне, але я не адмаўляўся даваць паказанні.

Падчас усіх допытаў быў фізічны і псіхалагічны ціск.

Цяпер я тлумачу, чаму мае паказанні ў ходзе папярэдняга следства не супадаюць з тымі, што я даю цяпер».

**Зміцер Панкавец**

Пра ціск і на іншым судовым працэсе заявіў Аляксандр Класкоўскі. Ён распавёў пра сваё затрыманне 20 снежня 2010. Яго забралі з кватэры ўвечары, даставілі ў Камітэт па барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй. Прыкулі кайданкамі да батарэі. Так ён ляжаў на падлозе да раніцы. Затым яму далі тэкст, які трэба было зачытаць на камеру. У тых умовах ён пагадзіўся. Першы допыт праходзіў без удзелу адваката.

# Станем шчаслівыя, калі станем свабодныя

**Апошняе слова Андрэя Саннікава.**

Высокі суд, паважаныя прысутныя!

Не буду разбіраць абсурднасць абвінавачванняў. Судовае разбіральніцтва паказала іх надуманасць.

Маю справу я разглядаю як праяву страху ўлады перад непазбежнымі пераменамі. Жаданне пакараць тых, хто не згодны з палітыкай кіроўнай улады. Гэта яшчэ і палітычная расправа з кандыдатам, які склаў рэальную канкурэнцыю Лукашэнку. Я быў і застаюся прыхільнікам адкрытых і рашучых дзеянняў па змене ўлады ў Беларусі.

Усё, што адбываецца, — гэта прадуманая маштабная правакацыя ўлады. На гэта ўказваюць словы Лукашэнкі, што пасля выбараў ён з усімі разбярэцца. Словы Макея, які гаварыў аб наяўнасці доказаў, што рыхтуюцца сілавыя акцыі з боку апазіцыі з баевікамі. Але ў гэтай справе не прадстаўлена ніводнага доказу. Словы Ярмошынай, якая абвясціла, што паўнамоцтвы кандыдатаў заканчваюцца ў 20.00 19 снежня, а не пасля афіцыйнага агалошвання вынікаў выбараў. Тым самым яна дала адмашку сілавым органам дзейнічаць.

Праваахоўныя органы не спрабавалі ўступіць у кантакт з кандыдатамі да пачатку акцыі, каб забяспечыць яе парадак. Яны не засталіся каля Дома ўрада пасля першага біцця шкла, тым самым заахвоціўшы супрацьпраўныя дзеянні. Гэта пацвярджаюць і наступныя заявы Лукашэнкі.

Я выказваю павагу да тых людзей, хто зрабіў выбар на карысць праўды, ахвяраваўшы свабодай. Я ганаруся, что знаходжуся ў клетцы з Гнедчыкам, Мірзаянавым, Васілевічам, Яроменкам. Дзякуючы ім, стала большай надзея на будучыню Беларусі.

У выніку сваіх дзеянняў 19 снежня ўлада канчаткова страціла давер сваіх грамадзян і сусветнай супольнасці. Наступствы гэтага ўжо заўважныя сёння: эканамічныя, палітычныя і нават спартовыя.

Пераважная большасць грамадзян хоча перамен. Мільёны людзей дэлегавалі сваю падтрымку тым, хто выйшаў на Плошчу. 19 снежня адбылася не акцыя пратэсту, а акцыя надзеі. Мы не толькі пратэставалі супраць фальсіфікацыі выбараў, мы прапаноўвалі ўладзе перамовы, каб знайсці разам выхад з крызісу. Ва ўладзе не знайшлося сумленных і мужных людзей, якія ўзялі б удзел у перамовах на Плошчы.

Прапанова дыялогу 19 снежня прывяла да збіцця мірных грамадзян. З імі распраўляюцца з дапамогай судоў. Тыя людзі, якіх я і не надта добра ведаю, дапамаглі мне ў маёй кампаніі.

Мы ўсе хочам аднаго — жыць у сваёй Беларусі, не баяцца за сваё жыццё. За гэта нас і судзяць, парушаючы закон.

Хацелася б нагадаць, што тыя, хто парушае закон, непазбежна акажуцца на лаве падсудных.

Больш за месяц я не даваў паказанні ў СІЗА КДБ. Я спадзяваўся, што гэты абсурд скончыцца. Я прайшоў катаванні, пагрозы. І мне зноў давядзецца прайсці праз цяжкія выпрабаванні. Але ў мяне няма пачуцця нянавісці і помсты. Заклікаю суд вынесці законны вырак. Законнасць — гэта не выкананне супрацьпраўных указанняў.

Мяне пазбавілі магчымасці аддзячыць людзям, якія падтрымалі мяне, хто прагаласаваў за мяне. Я ведаю, што нас большасць. Мы даможамся свабодных выбараў!

Я люблю сваю сям'ю, я люблю Беларусь, я люблю свабоду. Я ведаю, што ўсе людзі будуць шчаслівыя, калі мы станем свабоднымі.

Жыве Беларусь!

# Статкевіч: «Сядаць у крэсла Сідорскага» мне прапаноўваў бізнэсовец Сманцэр

**У судзе Ленінскага раёна Мінска працягваецца працэс над экс-кандыдатам у прэзідэнты Міколам Статкевічам.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Яго вінавацяць у арганізацыі масавых беспарадкаў 19 снежня.

Статкевіч разам з адвакатам яшчэ да пачатку працэсу падавалі хадайніцтва, каб усіх кандыдатаў судзілі разам. Атрымалі адмову.

Мікола Статкевіч выглядае бадзёрым. І гаворыць ён упэўнена. Ад яго працяглы час не было звестак. Толькі скупыя навіны праз адваката. Цяпер пацвердзілася інфармацыя, што экс-кандыдат трымаў галадоўку ў СІЗА. Сам Статкевіч не надта засяроджваўся на дэталях яго ўтрымання за кратамі. У першую чаргу прыводзіў аргументы на карысць версіі з правакатарамі 19.12.

«Я адмовіўся даваць сведчанні структуры, якой я не давяраю, якая ўсё гэта стварыла. Я не падпісваў ніякіх дакументаў прынцыпова [на папярэднім следстве]. Падпісаўся толькі пад тым, што азнаёміўся з матэрыяламі крымінальнай справы. І пад вынікамі экспертызы, каб іх не памянялі». Экс-кандыдат заявіў, што ў справе ўбачыў два пратаколы агляду плошчы Незалежнасці. Першы агляд з 0.30 да 04.00 праводзіў капітан. Ён знайшоў пустую бутэльку, сурвэткі, мегафон. Другі агляд праводзіў маёр — за 24 хвіліны ён знайшоў ужо шмат прадметаў: ледасекі, металічныя пруты. «Я не знаходжу іншага тлумачэння, як фабрыкацыя справы».

«Хацелася б пачуць, з кім і дзе я планаваў масавыя беспарадкі. Галаслоўнае абвінавачванне. Дзе тыя «баевікі», якіх я павёў? Гэтыя маладыя людзі, якія мяне бачаць першы раз? Масавых беспарадкаў не было. Але была спроба іх арганізаваць з боку ўлады, загадзя спланаваўшы».

Мікола Статкевіч патлумачыў сваё знаходжанне ў калоне Някляева ў той час, як яго прыхільнікі збіраліся каля чыгуначнага вакзала ўвечары 19 снежня. Каля 19.00 Статкевіч зайшоў у штаб Някляева, каб пазнаёміцца з дакументамі, якія планавалі вынесці на абмеркаванне на плошчы. А пасля зразумеў, што на вакзал не паспее. Калі на людзей напалі і пабілі, Статкевіч адзін рушыў на Кастрычніцкую плошчу. «Тут шкло разбілі і столькі абвінавачаных. А збіццё кандыдата ў прэзідэнты Някляева — я толькі даваў адно тлумачэнне».

Калі людзі выйшлі на праспект Незалежнасці, па словах Статкевіча, ён вырашыў узначаліць шэсце. «Побач была Адміністрацыя прэзідэнта. Самае небяспечнае — некіраваная сітуацыя. Я баяўся, што ўлада здольная на агрэсіўныя дзеянні. Варта было звесці людзей далей адтуль. Я спрабаваў выйсці на праспекце наперад, каб узначаліць дэманстрацыю. Але чамусьці невялікі ланцуг супрацоўнікаў ДАІ ў форме перакрыў дарогу менавіта нам (кандыдатам). Я іх абышоў і пабег даганяць дэманстрацыю. Але я не здолеў гэтага зрабіць да плошчы Незалежнасці. Людзі ішлі некіравана. Але беспарадкаў не было». На яго думку, кандыдатаў блакавалі наўмысна, бо спадзяваліся, што натоўп пачне чыніць гвалт.

Статкевіч прывёў некалькі аргументаў на карысць версіі аб правакатарах. Па яго словах, з'яўленне спецназа пасля першага біцця шкла і яго адыход былі наўмыснымі. «Мэта адступлення (пасля зразумеў) — выманіць кандыдатаў да ўваходу Дома ўрада, дзе было ўжо разбіта шкло».

Ён адзначыў, што пачуўся чыйсьці голас, маўляў, каля дзвярэй будынка чакае афіцэр, які будзе весці перамовы з дэлегацыяй кандыдатаў. Калі Статкевіч падышоў бліжэй, то ніякага афіцэра не ўбачыў. Тады зразумеў, што і гэта была правакацыя. Камусьці трэба было, каб кандыдаты падышлі да разбітага шкла.

«У лютым мяне перавялі з адзіночнай камеры ў агульную, дзе быў Зміцер Новік. Ён расказаў, што калі іх каля дзвярэй Дома ўрада пачалі збіваць спецназаўцы, некаторыя людзі, што білі шкло, закрычалі: «Свои! ГУВД!»

«Мы з групай кандыдатаў пайшлі да ўваходу Дома ўрада. І калі гавораць, што там нікога не было... Я ніколі не паверу, што прэм'ер-міністр у ноч выбараў там не быў, магчыма, ён быў недзе побач і мог хутка прыехаць».

Калі Статкевіч галадаў, да яго зайшоў начальнік СІЗА з мабільным тэлефонам. Паказаў фільм «Плошча. Жалезам па шкле». У ім паказалі Пінчука, які сказаў, што Статкевіч замовіў у яго металічныя пруты і папрасіў іх заточыць. Экс-кандыдат не сумняваецца, што замова Пінчуку была зроблена кімсьці задоўга да 19.12. І гэта сведчыць пра тое, што правакацыі планаваліся загадзя. Ён сказаў, што ў тым фільме былі выкарыстаны нарэзкі з яго размовы з адным з прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы падчас сустрэчы з выбарцамі і змешчаны ў патрэбны кантэкст.

Статкевіч патлумачыў і сітуацыю з тэлефоннай размовай, выкарыстанай у прапагандысцкім фільме. Нейкі мужчына пачаў даваць парады — «засоўваць планы ў кішэні», прапаноўваў кандыдату «сядаць у крэсла Сідорскага і цiснуць на кнопкі». Гэта быў бізнэсовец Аляксандр Сманцэр. Ён разбагацеў ва Украіне, але яго «раскулачылі». У 2004 годзе на гучным працэсе яго асудзілі да шасці гадоў пазбаўлення волі. Статкевіч заявіў, што пазнаёміўся з ім у Кіеве дзесьці ў 2008 годзе. Відаць, пасля выхаду з турмы Сманцэр, як і многія іншыя беларускія прадпрымальнікі, пераехаў ва Украіну. «Цікавасць да яго была, бо ён — беларускі прадпрымальнік», — сказаў Статкевіч. Падчас апошняй размовы ў сярэдзіне ліпеня 2010 у Кіеве спытаў у Сманцэра, каго ён падтрымае на выбарах. Той сказаў, што яму гэта нецікава. «Тады ён мне нецікавы». «Я палову не чуў з таго, што ён казаў. Хай сп. Сманцэр адказвае за свае словы».

Сваё знаходжанне на лаве падсудных Мікола Статкевіч лічыць звядзеннем асабістых рахункаў з ім кіраўніка краіны. «Я ведаў, што Лукашэнка помслівы». Аб гэтым яго папярэджваў і экс-кандыдат Казулін.

Нагадаем, што ў сваім тэлезвароце Статкевіч звярнуўся да Лукашэнкі на ты: «Вярні, што скраў: вярні свабодныя выбары».

Разам з Міколам Статкевічам судзяць яшчэ аднаго экс-кандыдата ў прэзідэнты Дзмітрыя Уса і шараговых удзельнікаў мітынгу Дзмітрыя Буланава, Андрэя Пазняка, Аляксандра Класкоўскага, Аляксандра Квяткевіча, Арцёма Грыбкова.

Статкевіча і Уса вінавацяць у арганізацыі масавых беспарадкаў (чч. 1 арт. 293 КК). Квяткевіча, Пазняка, Буланава, Грыбкова — ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч.2 арт. 293 КК). Класкоўскага вінавацяць адразу па трох артыкулах (чч. 1,2 арт. 293, арт. 369, арт. 382 КК) — арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках, публічная абраза прадстаўніка ўлады падчас выканання ім службовых абавязкаў, самавольнае прысваенне звання і ўлады службовай асобы (на плошчы ён быў у сваім старым міліцэйскім кіцелі — ён былы супрацоўнік ДАІ).

У гэтай кампаніі адзін Андрэй Пазняк кажа пра тое, што выпадкова знаходзіўся на плошчы Незалежнасці. Маўляў, апынуўся сярод натоўпу, выйсці з якога не ўдалося. На відэа, якое праглядалі ў судзе, няма ніводнага кадра, каб Пазняк чыніў гвалт. Няма пацвярджэнняў, што ён знаходзіўся на ганку Дома ўрада. Але ёсць кадры, на якіх яго ўдарылі дубінкай, калі ён спакойна стаяў.

Статкевіч, Ус, Класкоўскі, Пазняк, Буланаў сябе вінаватымі не прызнаюць. Квяткевіч і Грыбкоў часткова прызнаюць віну (толькі ў пашкоджанні маёмасці).

**Сяргей Макарэвіч**

# Пішу вам з Валадаркі



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Калі на судзе я і выглядаў стомленым, дык гэта толькі жаль па сыходзячай вясне. Піша Алесь Кіркевіч.**

Нарэшце з'явілася мажлівасць напісаць вам ліст. Я на Валадарцы, абжываюся. Калі на судзе я і выглядаў стомленым, дык гэта толькі жаль па сыходзячай вясне :). Тое, што мушу сказаць, дасць Бог, яшчэ скажу. А пакуль...

Новая «хата», новыя людзі, новыя гісторыі. Калі «Амерыканка» прыняла, дык Валадарка заглынула. Сустрэў этап з Жодзіна ў адстойніку. Нахабныя маладыя твары. Драпежныя вочы, змучаныя... проста змучаныя. Але вясёлыя. Скуласты «сіні» хлапец, нейкі занадта малады пацан, які, на жаль, не сустрэў Макаранкі на сваім жыццёвым шляху, армянін у паліто а ля раскольнікаў, азіят з невымоўным прозвішчам і павязкай на твары...

Нехта не ўпершыню, але надоўга. Нехта «першаходам», але запомніць назаўжды. Усе сюды: пацякуць па страваводу Пішчалаўскага замка, вузкімі калідорамі, крутымі лесвіцамі, пад нізкімі брамамі... Праглынула. Не падавілася. Ну дык «smacznego».

Дзякуй за ўсё! Поспехаў, мужнасці, Божай аховы.

Верым! Можам! Пераможам!

Зажывуць разадраныя рукі
Усміхнецца вясёлкаю неба
Смак салёны мядовай разлукі
Адчуваю ў бохане хлеба.
Берцы бою чакаюць на складзе
Расцвітуць перавулкі сцягамі
Не шукай супакою ў ладзе
Сёння з імі ты, заўтра — з намі!
Краты рэжуць блакіт небасхілу
Пыл адчаю ў лёгкіх асядзе
Рэшту кіне рука на магілу…
Хто каму?
Пажывем ды паглядзім!

**Аляксандр Кіркевіч, турма Валадарка, Мінск**

# Ірына Халіп застанецца з Данікам

Халіп, Марцалева, Севярынца асудзілі, але не пасадзілі.

Вынесены прысуды яшчэ адной групе палітычных вязняў. Павел Севярынец, сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, асуджаны на 3 гады «хіміі». Журналістка Ірына Халіп, жонка экс-кандыдата Андрэя Саннікава, — на 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады. Сяргею Марцалеву, кіраўніку штаба экс-кандыдата Міколы Статкевіча, далі два гады ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам.

Іх абвінавацілі ў грубым парушэнні грамадскага парадку (арт. 342 КК). Працэс аказаўся непрацяглым. Суддзі хапіла пяці дзён, каб прыняць рашэнне.

### Чаму судзяць?

Ірына Халіп не разумела, чаму на адной лаве падсудных аказаліся людзі, якія падтрымлівалі розных кандыдатаў. «Можа, справа ў тым, што мы разам ішлі па праезнай частцы?» Маўляў, цягам усяго працэсу пракурор спрабаваў даказаць толькі гэта. Хаця ніхто і не адмаўляў, што выходзіў на праспект. «Але чаму мы?» — пыталася Халіп. Разам з імі ішлі дзясяткі тысяч людзей. Журналістка сказала, што іх судзяць, бо яны ўголас кажуць тое, што думаюць усе, бо «спрабуюць угрызацца ў Канстытуцыю і дамагацца захавання нашых канстытуцыйных правоў і свабод».

Ірына Халіп і яе адвакат Ганна Бахціна настойвалі на выкліку ў суд начальніка ўпраўлення ДАІ Мінгарвыканкама Дзмітрыя Карзюка. Па словах суддзі, ён не змог з'явіцца, бо знаходзіўся на лячэнні. Таму былі зачытаны яго папярэднія сведчанні. Карзюк адзначыў у іх, што Халіп, Саннікаў і іншыя кандыдаты выйшлі на праспект Незалежнасці, прарваўшы ланцуг ДАІ. Але абвінавачаныя і адвакаты былі тым самым пазбаўлены магчымасці задаць пытанні, «якія чамусьці не былі зададзены яму падчас допыту папярэдняга следства». Па сведчаннях жа Халіп, ніякага ланцуга не было. А першых супрацоўнікаў ДАІ яна ўбачыла далей, на вуліцы Энгельса.

### Севярынец даваць паказанні адмовіўся

Павел Севярынец на працэсе адмовіўся адказваць на пытанні суддзі і пракурора. Пагадзіўся толькі даць тлумачэнні ў некалькіх словах. «Адказваць на пытанні я не буду, бо гэта можа быць выкарыстана не толькі супраць мяне. Хрыстос таксама не адказваў на пытанні. Я не разлічваю на справядлівасць і законнасць суда. На відэа відна, што я рабіў».

Севярынец апошнія дні працэсу стаяў: у яго ў турме скруціла спіну.

### Марцалеў прызнаў віну

Сяргей Марцалеў прызнаў абвінавачванне цалкам. Севярынец і Халіп не прызналі. Як вынік, кіраўніку штаба экс-кандыдата Статкевіча вынеслі мякчэйшы прысуд.

Сітуацыя, у якой апынуліся Халіп і Марцалеў, — спецыфічная. Яны абмежаваны ў сваім перасоўванні. Выязджаць больш чым на месяц за межы Мінска ім нельга. Пераезды на новае месца трэба ўзгадняць. Фактычна, яны застаюцца пад наглядам спецслужбаў. І пры любым парушэнні суд можа перагледзець сваё рашэнне. А значыць, пры мінімальнай актыўнасці яны могуць апынуцца за кратамі. І новую справу не давядзецца заводзіць.

Але ўсё ж Ірына Халіп зараз зможа гуляць на вуліцы з сынам Данікам. Раней у яе дома сядзела варта, а ёй забаранялі нават падыходзіць да акна.

**Сяргей Макарэвіч**

# Ірына Халіп: Выклічу брыгаду для прафесійнай прыборкі кватэры

Адразу пасля суда яна збіраецца памыць кватэру ад кадэбістаў. Але найперш напісаць мужу.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Адразу пасля сканчэння судовага працэсу Ірына Халіп выйшла да журналістаў. Сваякі і знаёмыя не паспелі ёй нават кветкі падарыць, а Ірына ўжо абдымала калегаў і адказвала на пытанні.

«Да чаго ж мы дайшлі? Радуемся, што нас пасадзілі не на 10—15 гадоў, а проста далі магчымасць гуляць са сваім сынам, якога пазбавілі бацькі. Мяне болей хвалюе прысуд майму мужу — 5 гадоў. Я добра разумею, што ён не будзе сядзець гэты час. Яго асудзілі толькі дзеля таго, каб абмяняць, як Луіса Карвалана, то бок на жратву і крэдыты. Пытанне, якую цану за яго заломяць?

Увесь гэты час я спрабавала зразумець, чаму мяне спачатку трымалі ў СІЗА, а потым пад хатнім арыштам. Па логіцы рэчаў, калі многім змянілі меру стрымання, то нашто жанчыну з дзіцём трымаць пад замком? Пасля заявы майго мужа, калі ён сказаў, што яму пагражалі маім і Данькавым жыццём, я зразумела, мяне проста трымалі закладніцай. Значыць, мужу сказалі, што твая жонка і тваё дзіця ў нашых руках, у замкнёнай кватэры, без сувязі са светам яны нікому нічога не могуць сказаць.

Я хачу, каб вы разумелі: адтэрміноўка выканання прысуду — гэта нават не ўмоўнае, як у Сяргея Марцалева. Гэта значыць, што праз два гады мяне будуць судзіць зноўку. І суд будзе абмяркоўваць, ці можна сказаць, што я стала на шлях выпраўлення. Ці можна мяне назваць законапаслухмяным чалавекам? Ну хто ж можа ў нашай краіне назваць апазіцыйнага журналіста законапаслухмяным чалавекам?..

Адзінае, што мяне раздражняла ў турме — гэта калі сукамерніцы пачыналі разважаць, што Бог не дае чалавеку выпрабаванняў болей, чым яны могуць вытрымаць. Маім маме, бацьку і сыну Бог даў болей выпрабаванняў, чым чалавек можа вытрымаць. Не мне, а менавіта ім.

Я рада, што мы ўсе добра трымаліся і дастойна выйшлі з гэтай гісторыі. Я ганаруся сваім мужам і лічу яго нацыянальным героем. Учора мне перадалі словы Паўла Дэмеша, сябра нашай сям'і (Рэд. — былы міністр замежных спраў Славаччыны, а пасля каардынатар German Marshall Fund па Цэнтральнай і Усходняй Еўропе): «Вацлаў Гавел атрымаў чатыры гады і стаў прэзідэнтам. Таму можна сказаць, што ў Андрэя Саннікава выбарчая кампанія працягваецца». Што ён не будзе сядзець пяць гадоў — я ўпэўнена.

Наконт далейшых планаў. Першае, што я хачу зрабіць, — гэта напісаць ліст мужу. Пяць месяцаў я не мела магчымасці нават пісаць яму лісты. Калі ўсе астатнія палітзняволеныя хаця б мелі магчымасць перапісвацца са сваімі жонкамі, то нас з мужам проста раздзялілі. Я ўпэўнена, што мой прысуд быў прызначаны на сёння, каб я не змагла ў суботу патрапіць на вынясенне прысуду да свайго мужа і пабачыць яго хаця б адзін раз.

Другое — памяняць замкі ў кватэры. За гэтыя пяць месяцаў ключы ад маёй кватэры пераходзілі з рук у рукі, як станіца ў грамадзянскую вайну.

Трэцяе, што я збіраюся зрабіць, — гэта выклікаць прафесійную брыгаду для ўборкі, чысткі, дэзінфекцыі, дэзактывацыі... Усё, што магчыма, каб духу КДБшнага не было ў маёй хаце. Вы можаце сабе ўявіць: тры з паловай месяцы па маёй кватэры шляліся дзядзькі ў чырвона-зялёных штанах...

І толькі пасля гэтага я буду абскарджваць прысуд.

Канечне, яшчэ з Данікам пагуляць — гэта неадкладна, сёння ж. Дарэчы, у Даніка ўчора быў дзень народзінаў, яму споўнілася чатыры гады. Яго тата даслаў яму цудоўны ліст і вершы. Даня пакуль думае, што яго тата знаходзіцца ў казачным горадзе Радыятар-спрынгс, з аднаго з яго любімых мульцікаў, што там тата набывае яму падарункі. Я не ведаю, калі я змагу распавесці Даню праўду. Ці патрэбна гэта? Але я падумаю пра гэта заўтра».

**Запісала Настасся Шамрэй**

# Павал Севярынец: Калі не памяняць сістэму, страцім краіну

У першую чаргу пасля прысуду Павал Севярынец абняў маці і аддаў Таццяне Яўгенаўне свой букет кветак. І, не адкладаючы ў доўгую скрыню, даў першае пасля вызвалення з-пад варты інтэрв'ю.

«Прысуд беззаконны ў любым разе, бо саджаць людзей за акцыю пратэсту — гэта беззаконне. Ёсць людзі, якім цяжэй зараз. Мы можам ім дапамагчы зараз, трэба арганізоўваць падтрымку.

Пра ўмовы ў ізалятары КДБ шмат сказана, дабавіць нічога не змагу. Для мяне найбольш цяжкім было, што ні разу за 5 месяцаў не дапусцілі святара, каб можна было паспавядацца і прычасціцца. Начальнік СІЗА КДБ дазволіў сустрэчу са святаром, але следства і суд не дазвалялі. Для мяне катаваннем была менавіта гэтая духоўная праблема.

Цяжка сказаць, у якія карты гулялі, прымаючы гэтае рашэнне [Рэд. — маюцца на ўвазе такія розныя прысуды ўдзельнікам Плошчы]. Задача і абавязак тых, хто выйшаў, дапамагчы тым, хто яшчэ застаецца за кратамі. Трэ будзе падымаць гэта на міжнародным узроўні, дапамагаць, маліцца за гэтых людзей.

Абскарджваць, зразумела, будзем.

Людзі сядзяць у турмах, эканоміка развальваецца, незалежнасць пад пагрозай. Калі не памяняць сістэму, можам страціць краіну. Але для таго, каб мяняць сістэму, трэба мяняць сябе. Падзеі 19 снежня паказалі, што і мы не ўсё рабілі як трэба.

**Запісала НШ**

# «Калі да чэрвеня сітуацыя не зменіцца, мы зачынім бізнес»

З лідараў у банкруты ператварылася фірма-імпарцёр будматэрыялаў.

Фірма, якой кіруе Аляксандр, пачала імкліва развівацца ў жніўні 2010 года. Яна займаецца імпартам будматэрыялаў. Але цяпер пра гэта можна з вялікай доляй верагоднасці казаць у мінулым часе. Калі праз тры тыдні сітуацыя не зменіцца да лепшага, заснавальнікі ліквідуюць кампанію і вывезуць капітал. І нават нягледзячы на гэта Аляксандр просіць не называць ягонае прозвішча і назву фірмы.

Бізнэс-партнёры Аляксандра прадказвалі валютны крызіс яшчэ пры канцы мінулага года. Большасць была ўпэўненая, што дэвальвацыя адбудзецца на мяжы зімы—вясны 2011-га.

Калі Нацбанк павялічыў тэрмін рэзервавання сродкаў на куплю валюты да 30 дзён, многія імпарцёры, кампанія Аляксандра ў тым ліку, не рызыкнулі гуляць па новых правілах. Праўда, нейкі час фірма яшчэ выкарыстоўвала легальныя, але складаныя схемы набыцця даляраў па курсе 3200—3500 рублёў за даляр.

Да праблем з валютай дадаліся іншыя моманты. Дзяржаўны мытны камітэт 24 лютага выдаў загад №63-ОД. Згодна з загадам, былі ўведзеныя індыкатывы на спіс імпартных тавараў, выраблёных па-за Мытным саюзам. Што зрабіла мыты на такія тавары значна вышэйшымі. Акрамя таго, увядзенне індыкатываў зрабіла памеры мытаў непрадказальнымі: імпарцёры пачалі завозіць тавары «ўсляпую», не ведаючы, якой будзе пошліна.

Цяпер у банках можна купіць даляры, але па такой цане, што імпарт губляе сэнс. Каб выжыць, фірма спрабуе пераарыентавацца.

Больш за палову персаналу выправілі ў бясплатны адпачынак, рэшце зрэзалі заробак. Над прадпрыемствам навісла пагроза банкруцтва. «Калі мы і выстаім, то спатрэбіцца год-два, каб акупіць страты ад гэтага крызісу», — кажа Аляксандр.

**Сямён Печанко**




PHOTO.BYMEDIA.NET

## АНТ зняло з эфіру ток-шоу аб праблемах долевага будаўніцтва

Замест анансаванай праграмы, 17 мая ў эфіры з'явілася перадача, прысвечаная… «Еўрабачанню».

Вядучыя — сумнавядомыя Тэнгіз Думбадзэ і Вячаслаў Бандарэнка — абралі чарговую бесканфліктную тэму.

Выпуск пра «Еўрабачанне» быў тэрмінова запісаны ў дзень выхаду праграмы.

Ва ўжо запісанай перадачы пра будаўніцтва разглядаліся фінансавыя праблемы дольшчыкаў. Напрыклад, забудоўшчык шматпавярховіка на вуліцы Янкоўскага ў Мінску паставіў будучых жыхароў перад фактам — кошт квадратнага метра павялічваецца з 3 мільёнаў да 4,2 мільёна рублёў.

**Віталь Несцераў**

## Дыпламаты і сваякі палітвязняў разам напісалі дыктоўку

У якасці тэксту былі выбраны «Лісты з-пад шыбеніцы» Каліноўскага.

16 мая паслы краін ЕС і Украіны, сваякі рэпрэсаваных і былыя палітвязні разам напісалі дыктоўку ў знак салідарнасці з палітычнымі зняволенымі. Акцыя прайшла ў бібліятэцы імя Адама Міцкевіча мінскага касцёла Святых Сымона і Алены.

Дыктоўка праводзілася паводле «Лістоў з-пад шыбеніцы» нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. Тэкст быў узяты з падручніка па беларускай літаратуры для 9-га класа агульнаадукацыйнай школы.

Ініцыяваў акцыю кандыдат філасофскіх навук Уладзімір Падгол.

Дыктоўку пачалі пісаць маці і дачка былога кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна, а завяршыў пасол Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан.

На дыктоўку з'ехаліся тры дзясяткі чалавек, у тым ліку мамы Славаміра Адамовіча, Эдуарда Лобава і Фёдара Мірзаянава і легендарны распаўсюднік незалежнага друку з Віцебска Барыс Хамайда.

Дыпламаты Еўрасаюза, Літвы, Венгрыі, Славаччыны, Чэхіі, Францыі, Украіны прадэманстравалі выдатнае валоданне нацыянальнай мовай беларусаў.

**Марат Гаравы, БелаПАН**

## Лукашэнка пакланіўся Купалу

14 мая, у часе паездкі ў родныя мясціны, Аляксандр Лукашэнка наведаў мемарыяльны запаведнік і музей Янкі Купалы ў вёсцы Ляўкі, паведамляе БЕЛТА. Агледзеўшы экспазіцыю, кіраўнік дзяржавы пакінуў запіс у Кнізе ганаровых гасцей, усклаў кветкі да помніка класіку беларускай літаратуры і падарыў музею асобнік першага выдання драмы Янкі Купалы «Раскіданае гняздо» (Вільня, 1919).

**СМ**

## Танцорка з Барысава стала фаварыткай польскіх «Танцаў з зоркамі»

А спявак з Гродна перамог у іншым тэлешоу.

36-гадовы музыка Генадзь Лоска з Гродна скарыў сваімі спевамі журы і гледачоў шоу X Factor, а 23-гадовая Марыя Трыпуцень з Барысава чатыры разы з пяці прызнавалася найлепшай танцоркай дня на рэаліці-шоу You Can Dance.

Генадзь Лоска яшчэ на пачатку 90-х пераехаў з Гродна ў Варшаву разам са сваім гуртам Seven B. Пасля заснаваў сольны музычны праект, які, праўда, сур'ёзнага камерцыйнага поспеху не меў. Грошы музыка зарабляў у асноўным тым, што іграў на вуліцах Варшавы. З год таму яго пабачыла ўся Польшча ў папулярным тэлешоу Mam Talent (аналаг расійскага шоу «Минута славы»). У наступны этап Генадзь не трапіў, але гледачам запомніўся. Пасля гэтага ў інтэрнэце сталі выкладаць відэа выступаў беларускага музыкі на вуліцах польскай сталіцы.

Удзел у тэлешоу X Factor на канале TVN стаў для яго больш удалым. Музыка прайшоў стадыі адбору, трапіў у фінал і мае ўсе шанцы стаць пераможцам. Пры той папулярнасці, якая абрынулася на яго ў апошні час, Лоска не адмовіўся ад вулічных канцэртаў. Паслухаць яго збіраюцца не дзясяткі, як раней, а сотні чалавек.



ONET.PL



ONET.PL

«Генадзь скарыў палякаў сваёй шчырасцю. У ім няма пафасу. Ён проста бярэ гітару і спявае», — кажа яшчэ адзін музыкант з Беларусі, які жыве ў Польшчы, — Павел Карпеш, больш вядомы як Кроў — лідар праекта «Чырвоным па белым».

Розгаласу ў Польшчы нарабіла і 23-гадовая танцорка Марыя Трыпуцень з Барысава. Апошнім часам яна жыла ў Мінску, дзе працавала харэографам у адной са школаў танца. Вырашыла паўдзельнічаць у кастынгу ў Варшаве на рэаліці-шоу You Can Dance і трапіла ў лік удзельнікаў.

Цяпер Марыя трапіла ў апошнюю стадыю конкурсу. Пасля кожнага тэлешоу, якое дэманструецца ў жывым эфіры, журы называе найлепшага танцора дня. Чатыры разы з пяці было названа імя беларускі.

**Сяргей Будкін, «Тузін гітоў».**

# Чаргінец супраць Ліпковіча




«САЛІДАРНАСЦЬ»

Суддзя выганяла людзей з залы суда за смех.

Вядомы блогер Яўген Ліпковіч быў пакараны за «абразу» старшыні пралукашэнкаўскага Саюза пісьменнікаў Мікалая Чаргінца. Першамайскі суд сталіцы 17 мая прысудзіў вядомаму блогеру Яўгену Ліпковічу штраф — 525 тысяч рублёў.

Ліпковіч 19 сакавіка спаліў у мінскім Севастопальскім парку кнігу Чаргінца «Таямніца авальнага кабінета». Здымкі спалення мелі шырокі розгалас у інтэрнэце.

Як патлумачыў блогер на судзе, у кнізе яго збянтэжылі сцэны непрыхавана эратычнага і, паводле яго словаў, нават парнаграфічнага зместу. У якасці доказу ён зачытаў у судзе вытрымкі.

Ліпковіч сказаў, што баяўся, каб яго непаўналетняя дачка (партрэт дачкі таксама быў прадэманстраваны суддзі) не прачытала тую кнігу, і вырашыў яе ўтылізаваць. Калі ён паліў кнігу ў парку, падышлі нейкія людзі і сфатаграфавалі, казаў Ліпковіч. Сваімі дзеяннямі ён не збіраўся абражаць Чаргінца.

Сам Чаргінец у суд не з'явіўся, даслаў свайго прадстаўніка. Сведкам з боку Чаргінца быў іншы блогер, Аляксандр Новікаў. Ён перадаў міліцыі 90 раздрукоўак з тэкстамі і фота з інтэрнэту, якія тычыліся Чаргінца. У тым ліку, падкрэсліў сведка, калаж, дзе «беларускі сцяг знаходзіўся ў анальнай адтуліне Мікалая Іванавіча». Аднак сярод тых 90 лістоў толькі адно фота тычылася спалення кніг Чаргінца, з-за якога і была ўзбуджаная справа.

Двух слухачоў у часе разбіральніцтва выдалілі з залы за смех.

Суддзя Алена Ананіч (яна ёсць у спісах невыязных, бо судзіла ўдзельнікаў Плошчы) усё ж дала Ліпковічу штраф. У сталічнай Цэнтральнай кнігарні «Таямніцы...» каштуюць 11700 рублёў. Выходзіць, Ліпковіча аштрафавалі на 45 кніг генерала-літаратара.

Як паведаміў Яўген Ліпковіч, ён будзе абскарджваць прысуд.

**СМ; паводле «Салідарнасці»**

# Беларускія альпіністы прапалі ў Гімалаях



Яны ўзыходзілі на «сямітысячнік» Тулагі, які не пакарыў яшчэ ніводзін чалавек.

Два вопытныя беларускія альпіністы — **Мікалай Бандалет** (на фота) і **Сяргей Белавус** — прапалі ў Гімалаях. Сувязь з імі не ўдаецца ўстанавіць ужо тыдзень.

Мікалай і Сяргей уздымаліся на адну з самых недаступных вяршынь свету — Тулагі (вышыня — 7059 метраў, размешчаная ў Непале). Дагэтуль «узяць» яе не ўдавалася ніводнаму чалавеку. Наогул у камандзе было чацвёра — акрамя Бандалета і Белавуса, на небяспечнае ўзыходжанне адважыліся Сяргей Прачакоў і Юрый Сушко. Усе яны ўваходзяць у мінскі клуб «Хан-Тэнгры», кіраўніком якога і з'яўляецца Мікалай Бандалет. Аднак 3 мая Прачакоў і Сушко адмовіліся ад далейшага ўзыходжання, 5 мая яны пакінулі Непал.

Мікалай Бандалет даўно марыў скарыць Тулагі. У часе леташняй экспедыцыі ў Гімалаі гэта не ўдалося — каманда альпіністаў пад кіраўніцтвам Бандалета ўзнялася вышэй аблокаў, да адзнакі 6400 метраў і, як ён пісаў, «цалкам разведала шляхі ўзыходжання на вяршыню». Штурмаваць яе планавалі сёлета...

Цяпер намаганні па пошуку зніклых суайчыннікаў каардынуе Таццяна, жонка Мікалая Бандалета. Непальскія ратавальнікі паведамілі ёй, што 15 мая верталёт ізноў вылятаў да вяршыні. На вышыні 6000 метраў знойдзены намёт з рэчамі, ад яго — ланцужок слядоў, якія вядуць на грэбень. Альпіністаў пакуль не знайшлі.

**СМ; паводле БелаПАН**

ВІДЗЕЖЫ

## У Гомелі шукаюць чупакабру

Загадкавы звярок высмактаў кроў у 250 трусоў у адным з дачных кааператываў.

Пошукі пачаліся пасля таго, як у інтэрнэце з'явіліся паведамленні пра тое, што ў дачным кааператыве пад Гомелем нейкі звярок высмактаў кроў амаль у 250 трусоў. На іх целах былі раны ў выглядзе чатырох буйных адтулін. Ніякіх пацверджанняў інфармацыі няма.

Выглядае чупакабра як класічны нячысцік з казак: вышыня каля 150 сантыметраў, перасоўваецца на задніх нагах. Ногі падобныя да страўсавых, але з капытамі. Галава нагадвае сабачую, з пашчы тырчаць буйныя зубы. Поўсць жмутам і шэра-рудая. Вочы ўначы пабліскваюць чырвоным, паведамляе kp.by.

У месцах, дзе «бачылі чупакабру», цяпер дзяжураць уфолагі.

Назва «чупакабра» перакладаецца з іспанскай «той, хто выпівае козаў». Упершыню чуткі пра існаванне невядомага навуцы двухногага драпежніка з'явіліся ў Лацінскай Амерыцы. Існаваннем чупакабры тлумачылі факты масавай загадкавай гібелі козаў.

Істоту залічвалі то да іншапланецянаў, то да ахвяраў генетычных эксперыментаў Пентагона.

Тэхаскі фермер нават забіў адну незразумелую істоту, што палявала на яго скаціну. Істота аказалася каётам, у якога ад старасці павылазіла поўсць.

Падобны выпадак адбыўся ў нашых шыротах: некалькі гадоў таму жыхар Чарнігаўскай вобласці запароў вілкамі загадкавага звера. Звер урэшце выявіўся лісіцай, у якой па незразумелых прычынах адсутнічала футра.

Са свежай гомельскай гісторыяй чарнігаўскую яднае тое, што тая лысая лісіца «спецыялізавалася» таксама на трусах...

«Камсамолка» адзначае, што тэрыторыя, дзе «бачылі чупакабру», забруджаная цэзіем-137 са шчыльнасцю 2—5 Кі/км², тут забаронены збор грыбоў і ягад. Так што, магчыма, стварэнне — вынік нейкай мутацыі. Але найхутчэй — вынік аптычнага падману.

Чупакабра — не першая загадкавая істота, што з'яўлялася ў Беларусі за апошні час. Некалькі гадоў таму па лясах Лідскага раёна шукалі «калматае стварэнне». Але так і не знайшлі. Мо гэта яно пераехала пад Гомель?

**Сяргей Мікулевіч**



СПОРТ І ДА СПОРТУ

## Фінская лазня на чэмпіянаце па хакеі

У фінале фіны разграмілі Швецыю — 6:1.



Фіны першыя прапусцілі шайбу ў свае вароты. Але гэта была адзіная шайба ў тым матчы, які яны выйгралі з «паўсухім» лікам. Раней Фінляндыя была чэмпіёнам свету адзіны раз, у 1995 г.

Трэцяе месца заваявала зборная Чэхіі, якая перамагла Расію 7:4.

Наступны чэмпіянат свету пройдзе 4—20 мая 2012 года адразу ў дзвюх краінах — Швецыі і Фінляндыі.

Зборная Беларусі (галоўны трэнер — Эдуард Занкавец) заняла 14-е месца, прайграўшы на першым этапе Канадзе (1:4), Швейцарыі (1:4) і Францыі (1:2, авертайм). У турніры за 13—16-е месцы беларусы выйгралі ў Аўстрыі (7:2), саступілі Латвіі (3:6) і перамаглі Славенію (7:1).

Пасля фіналу чэмпіянату свету сталі вядомыя супернікі зборнай Беларусі на групавым турніры сусветнага першынства — 2012. Беларусь трапіла ў адну групу з Расіяй, Швецыяй, Швейцарыяй, Славакіяй, ЗША, Францыяй і Казахстанам. Усе матчы пройдуць у Стакгольме.

У другую групу трапілі зборныя Канады, Фінляндыі, Чэхіі, Нямеччыны, Нарвегіі, Даніі, Латвіі, Італіі. Гэтыя матчы пройдуць у Хельсінкі.

**Алег Гардзіенка**

## На фанацкай электрычцы ехалі ўсяго 19 заўзятараў

У дзесяці вагонах!

На матч 10-га тура чэмпіянату краіны па футболе БАТЭ — «Мінск» (1:1) Беларуская чыгунка арганізавала адмысловы электрацягнік для прыхільнікаў сталічнай каманды па маршруце Мінск — Барысаў — Мінск.

Састаў адправіўся са станцыі «Мінск-Пасажырскі» ў 17:50 і прайшоў да Барысава без прыпынкаў.

Праўда, пасажыраў у электрычцы апынулася, мякка кажучы, не густа. Паводле дакладных падлікаў, у дзесяці вагонах знаходзіліся 19 фанатаў «Мінска», чатыры супрацоўнікі міліцыі і два прадстаўнікі СМІ.

**Goals.by**

КАМУ ШТО

## Ля Дома ўрада прайшоў фестываль мыльных бурбалак

Некалькі сотняў маладых людзей сабраліся на плошчы Незалежнасці для двухсэнсоўнага занятку.



15 мая ў Мінску прайшоў фестываль мыльных бурбалак Dreamflash-2011.

Некалькі сотняў маладых людзей сабраліся на плошчы Незалежнасці, дзе неадкладна пачалі выдзімаць і пускаць мыльныя бурбалкі. Затым вясёлы натоўп, не спыняючы «бурбалкапусканні», рушыў па галоўным праспекце сталіцы ў Купалаўскі сквер, дзе і адбыўся апафеоз падзеі. Каля помніка Песняру прайшоў масавы запуск мыльных бурбалак у вясновае неба.

Dreamflash — міжнародная акцыя, якая ўпершыню адбылася вясной 2005 года ў Маскве. Яна стала традыцыяй, да якой паступова далучыліся іншыя гарады — як у Расіі, так і ў іншых краінах. У Мінску фестываль мыльных бурбалак праходзіць другі год запар.

**БелаПАН**

ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

## Брытанскія дактары за €500 вызначаць працягласць жыцця

Тэст вымярае целамеры — структуры ў храмасомах чалавека.

У Вялікабрытаніі з гэтага года пачнуць рабіць дарагі аналіз крыві, што дапаможа даведацца, колькі гадоў засталося пражыць чалавеку, піша газета The Independent.

Навукоўцы лічаць, што па целамерах можна максімальна дакладна вызначыць, наколькі хутка старэе чалавек. «Мы ведаем, што людзі з кароткімі целамерамі жывуць меней. Але мы не ведаем, ці прынясуць даўжэйшыя целамеры больш працяглае жыццё», — тлумачыць Марыя Бласка з іспанскага Нацыянальнага цэнтра даследавання раку.

Лекары гатовыя распавесці, які біялагічны ўзрост чалавека, наколькі пацыент маладзейшы альбо старэйшы за свой рэальны ўзрост, усяго за €500. На думку даследнікаў, вызначэнне ўзросту па целамерах стане папулярным цягам наступных пяці-дзесяці гадоў.

Пытанні ў спецыялістаў выклікаюць магчымыя рэакцыі людзей на навіну аб тым, колькі засталося жыць, а таксама спекуляцыі нядобрасумленных арганізацыяў на тэме лекаў супраць старэння і эліксіраў неўміручасці. Акрамя таго, вынікі тэстаў могуць выклікаць камерцыйны інтарэс у кампаній, што прапануюць медычную страхоўку, якая различваецца з улікам рызыкаў сур'ёзных захворванняў альбо смерці ў маладым веку.

**СМ**

# «Я запомніла вочы таго, хто мяне біў»

**Мая Абромчык шукае сведкаў свайго збіцця.**

Мая Абромчык у жыцці яшчэ больш далікатная дзяўчына, чым выглядае на фотаздымках. Усміхаецца, але, аднаўляючыся пасля аперацыяў, вымушана кульгаць. Такой бы дарыць кветкі, а даводзіцца задаваць нялёгкія пытанні. Нядаўна па факце збіцця спецназаўцамі 21-гадовай студэнткі распачалі крымінальную справу.

**— Што з тваёй скаргай, якую ты накіравала ў пракуратуру?**

— Нядаўна адтуль прыйшоў адказ аб завядзенні крымінальнай справы паводле артыкула 155 КК РБ (прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў па неасцярожнасці). З іх боку гэта, відома, кампрамісны варыянт. Я прасіла ў дачыненні да спецназаўцаў распачаць справу паводле артыкула «перавышэнне службовых паўнамоцтваў».

> Пракуратура завяла крымінальную справу паводле артыкула 155 КК РБ (прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў па неасцярожнасці).

**— Ведаю, што ты была незадаволеная адвакатам.**

— У мяне зараз новы адвакат. У адрозненне ад папярэдніх, яна адразу ж задалася ідэяй знайсці сведак, якіх супрацоўнікі міліцыі везлі разам са мной з Плошчы. Таму калі хтосьці мяне памятае, хай знойдзе мяне — буду вельмі ўдзячная.

Вельмі важны сведка — немаладая жанчына, якая сядзела са мной у аўтазаку. Яна бачыла мяне адразу пасля збіцця, бачыла, што нага моцна ацякла, што косткі зрушаныя.

Яна патрабавала ў супрацоўнікаў выклікаць для мяне хуткую дапамогу, але яны не рэагавалі.

Спадзяюся, яна знойдзецца і не пабаіцца выступіць сведкай па маёй справе.

Яшчэ хацелася б знайсці відавочцаў, якія бачылі, як мяне ў міліцэйскай машыне аглядаў доктар.

**— Як прайшла нядаўняя паўторная аперацыя на назе?**

— З перабітай косткі галёнкі дасталі толькі адзін ужыўлены металічны цвік.

Калі дастануць астатнія тры цвікі і металічныя штыры — дакладна невядома. Трэцюю аперацыю павінны зрабіць на працягу паўгода.

**— Ці магла б ты яшчэ раз прыгадаць той вечар 19 снежня?**

— Мы спакойна ішлі з плошчы Незалежнасці ў бок вуліцы Валадарскага. Нас было чацвёра: я, два хлопцы і яшчэ адна дзяўчына. Раптам на скрыжаванні праспекта і вуліцы Валадарскага спецназаўцы з ачаплення сталі нас акружаць. Мы разгубіліся, было відаць, што яны настроены агрэсіўна: крычалі нешта накшталт «цяпер мы вам пакажам». Я ўзяла знаёмага за руку, а ён ад шоку пабег, я — за ім. Мы беглі праз двары, пакуль не ўперліся ў тупік.

Спыніліся там у разгубленасці. І тут я ўбачыла, што за намі бяжыць хвост з пяці спецназаўцаў. У тым жа двары побач стаялі хлопец і дзяўчына — двое накінуліся на іх, а трое падбеглі і абкружылі нас. Сталі біць майго знаёмага дубінкай па галаве.

Я стала прасіць: «Не біце яго, калі ласка».

І тады той жа спецназавец, які біў знаёмага, стаў біць мяне. Не ведаю, чаму. Напэўна, хацеў паказаць, што не трэба заступацца.




Што было потым, я памятаю дрэнна.

Здаецца, спецназавец двойчы ўдарыў мяне дубінкай па назе. Я звалілася. Затым ужо ляжачую ён ударыў мяне яшчэ раз, а можа і некалькі.

Калі біў, казаў, каб я ішла ў машыну — а як я пайду, калі мяне б'юць?! Потым, калі паспрабавала ўстаць, аказалася, што я не магу ісці. Знаёмы панёс мяне ў міліцэйскі мікрааўтобус на руках.

**— Ты запомніла гэтых спецназаўцаў?**

— Выразна запомніла толькі, што на іх была чорная форма, што яны мелі шчыты.

І яшчэ запомніла вочы таго, хто мяне біў. На твары ў яго было шчацінне. Яму недзе ад 20 да 27 гадоў, і ён быў не такі вялізны і шыракаплечы, як звычайныя спецназаўцы.

Мне вельмі важна знайсці сведак, якія ехалі са мной у адным аўтазаку. Гэтыя людзі маглі бачыць, як мяне прымушалі ісці ў той час, як я адчувала невыносны боль і крычала. Магчыма, мы здолеем хутчэй знайсці вінаватых.

**— Можна сказаць, што ты ўжо адышла ад тых падзеяў?**

— З-за бальнічнага на гістфаку БДУ перавялася з 4 курса дзённага аддзялення на 5 курс завочнага. Але я веру ў лепшае, спадзяюся, што ўсё будзе добра.

**— Наколькі я ведаю, многія табе матэрыяльна дапамагалі.**

— Так, была сабраная сума каля 4 млн. Грошы пайшлі на аднаўленне пасля траўмы, на юрыдычную дапамогу. У маіх бацькоў у Ганцавічах маленькія заробкі, а я страціла магчымасць атрымліваць стыпендыю і падзарабляць, як раней. Таму гэтыя грошы нам вельмі дапамаглі.

Напрыклад, адзін чалавек са Светлагорска дапамагаў грашыма некалькі месяцаў запар і дапамагае да гэтага часу. З юрыдычнымі пытаннямі дапамаглі праваабаронцы з Цэнтра прававой трансфармацыі і «Вясны». Дапамагалі мінскія прадпрымальнікі і такія арганізацыі, як «Салідарнасць», БНФ, кампанія «Гавары праўду!».

Я зразумела, што ёсць добрыя людзі, што ёсць дзеля чаго жыць.

**Руслан Гарбачоў, «Салідарнасць»**

# Хто адкажа за «казла»?

**Група магілёўцаў просіць міністра інфармацыі даць тлумачэнне выказванняў Лукашэнкі.**

У Магілёве сабралі і адправілі ў Міністэрства інфармацыі 16 подпісаў грамадзян, якія просяць растлумачыць словы Аляксандра Лукашэнкі на адрас кіраўніка Еўракамісіі Жазэ Мануэла Барозу і прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча.

Ініцыятар ліста — актывіст Незалежнага прафсаюза РЭПАМ Аляксей Паўлоўскі. Нагадаем, што 26 красавіка ў сваім выступленні перад СМІ Аляксандр.Лукашэнка назваў кіраўніка Еўракамісіі «казлом» і сказаў, што ў кіраўніцтва Украіны «вашывасці» хапае.

Падпісанты ліста просяць міністра міністра інфармацыі Алега Праляскоўскага «даць азначэнні паняццям «казёл» і «вашывасць» у звароце да іншых людзей» і растлумачыць, «ці з'яўляюцца выказаныя словы прымальнымі пры звароце звычайных грамадзян РБ да кіраўніцтва нашай дзяржавы».

У размове з карэспандэнтам «НН» Аляксей Паўлоўскі растлумачыў, што, на яго думку, у Беларусі жывуць інтэлігентныя людзі, многія з якіх нават не ведаюць такіх словаў — «вашывы», «казёл». Чаму ліст накіраваны менавіта Праляскоўскаму? «Ён былы ідэалагічны кіраўнік, хай тлумачыць. Але калі скажуць, што нехта іншы дасць адказ — хай дае!» — заявіў Паўлоўскі.

Падпісантам непрынцыпова, хто менавіта з прадстаўнікоў улады адкажа за «казла».

**Віталь Несцераў**

# Экс-дыктатар Егіпта папрасіў прабачэння амністыі

Арабскія СМІ распаўсюдзілі ліст ад імя звергнутага тры месяцы таму прэзідэнта Егіпта Хосні Мубарака. У ім Мубарак выбачаецца перад усімі егіпцянамі і просіць амніставаць яго.

У якасці апраўдання Мубарак кажа, што ўсе зробленыя ім памылкі сыходзілі ад яго дарадцаў, якія паведамлялі яму ілжывую інфармацыю. Таксама Мубарак заяўляе, што гатовы перадаць Егіпту ўсе свае грошы і ўласнасць.

У панядзелак жонка Хосні Мубарака Сюзана падпісала паперы аб адмове на карысць дзяржавы ад сваёй маёмасці — вілы ў прыгарадзе Каіра і сумы ў $3,4 млн на банкаўскіх рахунках.

> Толькі ў Швейцарыі Мубарак трымаў $340 млн, а «народны лідар» Кадафі — $320 млн.



Яшчэ нядаўна Кадафі строіў з сябе вялікага палкаводца.

На рахунках Мубаракаў у іншых краінах былі арыштаваныя сотні мільёнаў даляраў — 340 мільёнаў у адной Швейцарыі.

Дарэчы, і «народны лідар» Лівіі Муамар Кадафі таксама меў у Швейцарыі 320 мільёнаў баксаў.

83-гадовага Мубарака і яго жонку затрымалі на 15 сутак у рамках расследавання распачатых супраць іх справаў.

Мубарака і яго жонку вінавацяць у выкарыстанні службовага становішча дзеля асабістага ўзбагачэння, а Мубарака таксама падазраюць у тым, што ён загадваў страляць па мірных грамадзянах.

**Сяргей Гезгала**

# На апальных адвакатаў пачалі заводзіць крыміналкі

**ГУУС распачало адразу дзве крымінальныя справы супраць Таццяны Агеевай.**

Нагадаем, у лютым 2011 года Міністэрства юстыцыі пазбавіла ліцэнзіяў чатырох адвакатаў, якія баранілі абвінавачаных па справе аб «масавых беспарадках» 19 снежня 2010 года. У няласку трапілі і Алег Агееў, які бараніў былога кандыдата ў прэзідэнты Аляксея Міхалевіча, і ягоная маці Таццяна Агеева.

Дзеянне ліцэнзіяў Алега Агеева і Таццяны Агеевай было спыненае «за грубыя парушэнні парадку афармлення пагадненняў на аказанне юрыдычнай дапамогі».

Праз тры месяцы пасля пазбаўлення ліцэнзіі ў дачыненні да адвакатаў пачалі заводзіць крымінальныя справы. Першай падазраванай стала Таццяна Агеева. Ёй інкрымінуецца тыя ж дзеянні, у якіх яе абвінавачваў Мінюст, але ўжо не са спасылкай на матэрыялы планавай праверкі міністэрства, а на нейкія матэрыялы КДБ.

Таццяне Агеевай інкрымінуецца здзейсненне злачынства, прадугледжанага ч.1 арт.380 (падробка, выраб, выкарыстанне альбо збыт падробленых дакументаў, штампаў, пячатак, бланкаў) і ч.2 арт.380 (падробка, выраб, выкарыстанне альбо збыт падробленых дакументаў, штампаў, пячатак, бланкаў, здзейсненыя паўторна або групай асобаў па папярэдняй змове) Крымінальнага кодэкса.

Паводле звестак КДБ, Таццяна Агеева летам 2010 года ўнесла загадзя ілжывыя звесткі ў пагадненне па крымінальнай справе, падаўшы іх у бухгалтэрыю Прэзідыума Мінскай калегіі адвакатаў у якасці падставы для налічэння заробку. Аналагічныя дзеянні адвакат быццам бы здзейсніла і ў верасні 2010 года.

Звестак аб узбуджэнні крымінальных справаў у дачыненні да іншых адвакатаў пакуль няма. Аднак, як высветліў «Ежедневник», на датычнасць да здзяйснення гэтага злачынства ўжо правяраецца і сын Таццяны Агеевай, які абараняў Алеся Міхалевіча.

**Александр Надзішын, «Ежедневник»**

# «Еўрабачанне» выйграў азербайджанскі поп

## Беларуска сіпела, а Беларусь упершыню не прагаласавала за Расію.



Настасся Віннікава прыехала на «Еўрабачанне» з песняй I love Belarus і цымбаламі. Вакол песні, напісанай для конкурсу, напярэдадні разгарэўся скандал. Спачатку яна называлася Born in Byelorussia, згадваўся ў тэксце і СССР. Пасля абурэння слухачоў тэкст перарабілі. Аднак музыка засталася. І некаторым яна нагадала песню познесавецкага панк-гурта «Сектар газа» «Гуляй, мужык»...

Але пераробкі і не дапамаглі. Песня прайграла, заняўшы ў паўфінале 14-е месца.

Паколькі ў беларускай ідэалагічнай сістэме поспех на «Еўрабачанні» мусіць дэманстраваць перавагу лукашэнкаўскай мадэлі, першым на паразу спявачкі адгукнуўся Аляксандр Лукашэнка. Ужо на наступны дзень ён заявіў, што Беларусь «будуць душыць па ўсіх напрамках, будуць душыць, як учора на «Еўрабачанні» гэтую дзяўчынку».

Эстафету выкрыцця «закулісы» падхапіла спявачка і кілбасная каралева Анжаліка Агурбаш — яна пацярпела фіяска ў «Еўрабачанні-2005».

Пошукі вінаватых пасля чарговай паразы робяцца беларускай традыцыяй на «Еўрабачанні». Вера ў тэорыі змовы — нацыянальная рыса беларусаў. Суддзі вінаваты ў нашых паразах на футбольным полі. Так, часам і мы робімся ахвярамі перадузятасці: як нашы баскетбалісткі на чэмпіянаце ў Чэхіі. Але ў такой сама сітуацыі парою апынаюцца ўсе нацыі. Толькі лузеры вечна тлумачаць свае паразы падкопамі ворагаў.

Журналістам «НН» падалося, што і песня Віннікавай была слабаватай, і спявала яна не бліскуча, нават голас быў асіпшы.

### «Гэта Расія, б***ь!»

Калі беларусы вялі «вечна плач свой аб старонцы», расіяне скандалілі з размахам.

Расійскі выканаўца Аляксей Вараб'ёў не без напругі прабіўся ў фінал. Даведаўшыся пра гэта, Вараб'ёў даў волю пачуццям. «Гэта Расія! Гэта Расія, бл...ь! Хадзі сюды, бл...ь! Глядзі ў вочы, бл...ь!» — пракрычаў Вараб'ёў за кулісамі «Еўрабачання» ў камеру. Відэаролік шырока разышоўся ў інтэрнэце.

Але на гэтым дасягненні расійскага выканаўцы і скончыліся. Па выніках фіналу ён апынуўся на перадапошнім 24-м месцы.

Прыклала да гэтага правалу руку і Беларусь. Нашы слухачы традыцыйна ставілі высокія адзнакі расійскім удзельнікам, а гэтым разам далі толькі 6 балаў. А чаго яны крэдыт не даюць?

### «Еўрабачанне-2012» паедзе ў Баку

Перамогу ў Дзюсельдорфе нечакана святкаваў азербайджанскі дуэт Эль і Нікі з малазапамінальнай песняй Running Scared. І хоць ім з іх 221 балам далёка да абсалютнага рэкорда нашага земляка з Нарвегіі Аляксандра Рыбака (386 балаў), дзякуючы Эль і Нікі «Еўрабачанне» ўпершыню паедзе так далёка на ўсход. Азербайджан даўно прымерваўся да перамогі. У пераможным для Рыбака 2009-м гэтая краіна атрымала «бронзу».

Зрэшты, не толькі краіны, але і асобныя выканаўцы неаднакроць спрабуюць свае сілы на гэтым конкурсе. Сёлета па другім разе выступілі Zdob si zdub з Малдовы, скандальная спявачка-транссэксуал Dana International з Ізраіля (пераможца 1998 г.), немка Лена Мейер-Ландрут (перамога 2010).

А французскі ўдзельнік «Еўрабачання» заспяваў на родным карсіканскім дыялекце. Цікава, што ад Беларусі на конкурс яшчэ ні разу не пасылалі песню не тое што на дыялекце, але і на нацыянальнай мове. Можа быць, гэта ад таго, што канкурсанта ад нашай краіны выбіраюць на самым высокім узроўні. А з такой вышыні больш заўважаюць твар і фігуру, чым культурны код. Хоць для еўрапейцаў, магчыма, бабулькі з-пад Кобрына, што сядаюць на шпагат пад свае палескія песні, былі б цікавейшыя за «гімн Беларусі».

«Еўрабачанне» — конкурс эстраднай песні, у якім бяруць удзел выканаўцы з краін-удзельніц Еўрапейскага вяшчальнага саюза. Ладзіцца штогод ад 1956 г. Аўдыторыя конкурсу сягае да 600 мільёнаў гледачоў па ўсім свеце.

**Сямён Печанко, СГ.**

**Справа дзяржаўнай важнасці. Лукашэнка павіншаваў Аліева з перамогай Азербайджана**

«Беларусы шчыра хварэлі за Нігяр і Эльдара як за сваіх сяброў» [Беларусь дала Азербайджану 6 балаў — «НН»], — гаворыцца ў віншаванні. У ім таксама адзначаецца, што вопыт Азербайджана апынецца карысным беларускім удзельнікам «Еўрабачання».

**Як галасавалі за Віннікаву ў паўфінале**

Малдова, Украіна — па 10 балаў, Македонія — 8, Латвія — 6, Эстонія — 4, Кіпр —3, Боснія і Герцагавіна — 2, Румынія, Славакія — 1.

Каму аддалі галасы беларусы ў фінале

12 балаў Грузіі (9-е выніковае месца), 10 — Украіне (4), 8 — Германіі (10), 7 — Малдове (12), 6 — Азербайджану (1), 5 — Расіі (16), 4 — Швецыі (3), 3 — Італіі (2), 2 — Вялікабрытаніі (11) і 1 бал — Даніі (5).

**Беларусы на Еўрабачанні**

Беларускія выканаўцы дэбютавалі на конкурсе ў 2004. І толькі двойчы прайшлі ў фінал.

**2004**

Дуэт «Аляксандра і Канстанцін», My Galileo — 19 месца (10 балаў).

**2005**

Анжаліка Агурбаш, Boys and Girls —13-е месца (67).

**2006**

Паліна Смолава, «Мама» —22-е месца (10).

**2007**

Дзмітрый Калдун, Work your Magic — фінал, 6-е месца (145).

**2008**

Руслан Аляхно, Hasta La Vista Baby — 17-е месца (27).

**2009**

Пятро Ялфімаў, Eyes That Never Lie — 13-месца (25).

**2010**

«2+3», Butterflies — фінал, 24-е (18).

**2011**

Настасся Віннікава, I love Belarus — 14-е (45).

# «Ляпіс» аглушыў Вільню

## Забаронены ў Беларусі гурт сабраў аншлаг у сталіцы Літвы.

За гадзіну да канцэрта «Ляпісаў» у Вільні ля клуба «Прапаганда» сабраліся сотні людзей.

Хто б мог падумаць у часы, калі N.R.M. пачаў збіраць поўныя залы ў Мінску, што на канцэртах «Ляпіса Трубяцкога», які тады спяваў блазнаватыя «Ау» і «Ты кінула», будзе гучаць беларуская мова, а над натоўпам будуць лунаць бел-чырвона-белыя сцягі? Што гурт Сяргея Міхалка будзе выступаць у Вільні пры падтрымцы навучальнай установы ў выгнанні, маючы і ўласны статус забароненага на радзіме? Але факт застаецца фактам — 14 мая «Ляпісы» адыгралі канцэрт для студэнтаў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, сабраўшы поўную залу.



СЯМЁН ПЕЧАНКА

Канцэрт быў арганізаваны ЕГУ. Дапамагла таксама кампанія «Будзьма беларусамі». Трапіць на яго можна было толькі па запрашальніках.

З імправізаванай VIP-ложы за дзеяй назірала кіраўніцтва ўніверсітэта, а таксама міністр адукацыі Літвы. Апошні нядоўга сядзеў у прэзідыуме і неўзабаве пайшоў танчыць.

Ехалі на канцэрт і з Беларусі. На стаянцы прысутнічалі аўто з беларускімі нумарамі, над адным з мікрааўтобусаў з'явіўся бел-чырвона-белы сцяг.

Трапіўшы ў сярэдзіну, можна было набыць выданні ARCHE, атрымаць саколку кампаніі «Без візы!» або проста папіць смачнага піва.

Сам канцэрт нагадаў леташні выступ «Ляпісаў» на «Басовішчы». Было гэтак жа весела і горача. Магчыма, не хапала кандыцыянера і трошкі лепшага гуку, але абазнаныя людзі казалі, што ад залы былога Палаца прафсаюзаў іншага чакаць не даводзіцца. Ды, падаецца, такія нюансы хвалявалі адзінкі. Большасць жа ніяк не хацела адпускаць музыкаў.

Развіталіся музыкі з Вільняй ненадоўга — 10 чэрвеня ў тым жа клубе «Прапаганда» пройдзе адкрыты канцэрт «Ляпісаў».

**СП**



**Беларуская бібліятэка імя Францыска Скарыны**

знаходзіцца па адрасе: 37 Holden Road, London N12 8HS

# Юбілей беларускай скарбніцы

15 мая споўнілася сорак гадоў Беларускай бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане, якой кіруе айцец Аляксандр Надсан.

На сёння Скарынаўская бібліятэка з'яўляецца найбуйнейшым сховішчам беларускіх і беларусазнаўчых выданняў па-за межамі Беларусі. У нетрах бібліятэкі захоўваецца больш за 30 тысяч кніг.

**zbsb.org**

# «Без перастанку і без перамены»

«Наша Ніва» пачатку XX стагоддзя выкарыстоўвала кожны кручок у законе, абы толькі працягваць выхад. Піша гісторык **Алег Дзярновіч**.

Першая «Наша Ніва» выдавалася амаль дзевяць гадоў — ад лістапада 1906 г. да жніўня 1915 г. Гэта было даволі арыгінальнае па задуме ўніверсальнае выданне, якое спалучала функцыі газеты і штотыднёвага часопіса.

Існаванне легальнай беларускай прэсы ў бюракратычнай Расійскай імперыі, дзе ўсе сферы жыцця падлягалі строгай рэгламентацыі, стала магчымым толькі пасля царскага маніфеста ад 17 кастрычніка 1905 г. Гэты знакаміты дакумент пад назвай «Аб удасканаленні дзяржаўнага ладу» быў распрацаваны прэм'ерам перыяду Першай расійскай рэвалюцыі Сяргеем Вітэ — балтыйскім немцам з паходжання і рэфарматарам на расійскай службе.

Маніфест пераразмяркоўваў заканадаўчаю ўладу ў Расіі паміж царом і Дзяржаўнай Думай, а падданым імперыі і гарантаваў свабоды сумлення, слова, сходаў. Але абвяшчэнне ў Расіі больш ліберальнага заканадаўства зусім не гарантавала беларускім актывістам і культурнікам камфортных умоваў для іх дзейнасці.

## «Наша Доля» — спроба

«Нашай Ніве» ў 1906 г. папярэднічала газета «Наша Доля», першы нумар якой выйшаў 1 верасня накладам дзесяць тысяч асобнікаў, з якіх за адзін дзень у Вільні разышлося больш за тры тысячы. Такі фенаменальны поспех, а таксама досыць радыкальная палітычная праграма рэдакцыі насцярожылі ўлады. Пасля выхаду першага нумара «Нашай Долі» паліцыя абвінаваціла рэдактара паводле артыкула 129 Крымінальнага Улажэння, які пагражаў самым суровым пакараннем у выдавецкай сферы. Віленская судовая палата не зацвердзіла гэтай пастановы, адмовіла ў закрыцці газеты і адмяніла накладзены на наклад арышт. Але ў выніку чатыры нумары газеты з шасці выдадзеных былі канфіскаваныя.

Урэшце, 11 студзеня 1907 г., паводле судовага выраку, газету закрылі, а рэдактара асудзілі да года турэмнага зняволення ў крэпасці, «з забаронай прымаць на сябе званне рэдактара ці выдаўца якога-небудзь перыядычнага выдання на працягу трох гадоў».

Рэдактар Іван Тукеркес спрабаваў бараніцца, падаў касацыйную скаргу ў Сенат, а яго маці ўнесла заклад у суме 100 руб. Праз два месяцы, 23 сакавіка, гэтая скарга была адхіленая Крымінальным касацыйным дэпартаментам Сената. І тады, каб не трапіць у вязніцу, Тукеркес уцёк у Парыж. Грашовы заклад жа пайшоў «на ўладкаванне месцаў зняволення». З нешматлікіх пазнейшых звестак захаваліся толькі сведчанні пра тое, што ў 1936 г. Іван Тукеркес звяртаўся ў Віленскі архіў з просьбай выслаць яму копіі судовай справы і прысуду. Далейшы лёс Тукеркеса, якога Антон Луцкевіч называў «пражыгацелем жыцця», нам невядомы. Як і недастаткова прапісана імя гэтага чалавека ў гісторыі беларускай культуры і журналістыкі.



Аляксандр Уласаў — рэдактар і выдавец «Нашай Нівы».

## «Наша Ніва»: канфіскацыі 1907 г.

«Наша Ніва» ад пачатку пазіцыянавала сябе як памяркоўнейшае за «Нашу Долю» выданне, што адзначалі таксама расійскія ўлады. Тым не менш, пільная ўвага цэнзуры да зместу газеты захоўвалася ўвесь час. Ад лютага 1907 г. «Нашай Нівай» «займаўся» віленскі інспектар па справах друку А. Кемерлінг.



Рэдакцыя «НН» пасля паліцэйскага налёту.

Ён і наклаў арышт на № 8 газеты за публікацыю ў ім двух матэрыялаў: «Зямельная справа ў Новай Зеландыі» і фельетона «Дума і народ». У гэтых тэкстах газета звярталася да набалелага зямельнага пытання і прапаноўвала ўтварыць рэгіянальны прадстаўнічы орган — Сейм. Падобныя ініцыятывы выходзілі за рамкі афіцыйнага расійскага лібералізму.

Але ўжо праз тыдзень, 1 сакавіка 1907 г., той самы Кемерлінг наклаў арышт на № 9 «Нашай Нівы» за публікацыю рэдакцыйнага артыкула «Вільня 2 (15) марца». Гэта быў агляд парламенцкага карэспандэнта «Работа Думы». Трэба заўважыць, што журналісты з сімпатыяй ставіліся да дзейнасці гэтага прадстаўнічага органа і крытыкавалі абмежаванні, якія ўрад і чыноўнікі накладалі на дэпутатаў.

«Нягледзячы на ўвесь гэты ганебны надзор, на ўсе крыўды і абіды, Дума цвёрда і мудра вядзе сваё дзела, каб даць змучанаму народу новыя законы, свабодныя парадкі, спакой. Няхай жа народ падтрымае Думу, няхай праз сваіх хадакоў і наказы паможа ёй у рабоце і пастаіць за яе», — пісала «НН».

Самой жа «Нашай Ніве» спакой не абяцаўся. Бо № 12 ад 23 сакавіка 1907 г. таксама быў арыштаваны. Рэдакцыі даводзілася працаваць ва ўмовах, калі на некалькі нумароў запар накладаўся арышт. А паралельна з гэтым адбываліся начныяператрусы ў рэдакцыі, налёты палітычнай паліцыі на друкарню ды канфіскацыі рэдакцыйнай маёмасці.

11 лістапада 1907 г. на два тыдні была зачынена друкарня Марціна Кухты, дзе выходзіла абсалютная большасць тагачасных беларускіх выданняў, у тым ліку і «Наша Ніва».

Увесь гэты час на «Нашу Ніву» нападала прэса «заходнерускай» арыентацыі — беларускую газету абвінавачвалі ў сепаратызме. Выданне «Окраины России» 19 сакавіка 1907 г. змясціла спецыяльны арытыкул «Новы від сепаратызму — беларусафільства». У такой сітуацыі прэсінгу «Наша Ніва» расцэньвала такія артыкулы як публічныя даносы з заклікам да царскай адміністрацыі прыдушыць беларускі нацыянальны рух і прэсу.

## Няпростая доля Уласава

Натуральна, разам з самой газетай пад рэпрэсіі падпадаў і яе рэдактар. У 1908 г. Аляксандр Уласаў быў пакараны гіганцкім па тых часах штрафам 50 рублёў і арыштам на сем сутак па справе чарнасоценнага дэпутата Гатавецкага. Дэпутат падаў у суд на газету, абвінавачваючы яе ў паклёпе. А 22 студзеня 1910 г. адбылося пасяджэнне Віленскай судовай палаты па крымінальнай справе яшчэ 1907 г. — канфіскацыі «НН» № 8. У судзе Уласава абараняў вядомы віленскі адвакат Тадэвуш Урублеўскі (1858—1925). Сама газета так інфармавала сваіх чытачоў пра рэпрэсіі: «Гэтая кара як бы ганорная і ніякіх правоў не адыме, так што «Наша Ніва» будзе выходзіць без перастанку і без перамены. Калі ж Рэдактар выйдзе з фортэцыі, то ён ізноў будзе кіраваць газетай». Да таго, зазначала газета, «у крэпасці можна працаваць без перашкодаў». Тут гаворка вялася пра ўмовы ўтрымання ў расійскіх вязніцах пачатку XX ст., дзе можна было працаваць з кнігамі і паперамі. У 1910 г. Уласаў атрымаў два месяцы зняволення.

> «Калі ж Рэдактар выйдзе з фартэцыі, то ён ізноў будзе кіраваць газетай».

Але справа канфіскацый 1907 г. зноў усплыла ў 1912 г. У студзені «Нашай Нівай» зацікавіўся Дэпартамент духоўных спраў пры МУС Расійскай імперыі. Ён у лісце ў Галоўную ўправу па справах друку пры МУС абвінаваціў беларускую газету ў імкненні «зліцця беларусаў з палякамі». Як аргумент называлася... выкарыстанне рэдакцыяй лацінскага шрыфту. Начальнік Галоўнай управы пакінуў сваю рэзалюцыю на гэтым дакуменце: «Неабходна адхіліць ад рэдактарства». Адначасова «Окраины России» разгарнулі новую атаку на «Нашу Ніву». Мэта была відавочнай — пазбавіць Аляксандра Уласава права быць рэдактарам-выдаўцом беларускай газеты.

Але сам Рэдактар заняў актыўную прававую пазіцыю. У сваіх лістах у афіцыйныя расійскія інстанцыі ён адстойваў сваё грамадзянскае права займацца журналістыкай. І яму сапраўды ўдалося намацаць слабае месца арганізаванай рэпрэсіўнай кампаніі. Рэч у тым, што ў 1912 г. Уласава спрабавалі прыцягнуць да суда і пазбавіць права быць рэдактарам па справе 1907 г., але ж у 1910 г. ужо адбыўся працэс па тых канфіскацыях.

Таму справа 1912 г. выглядала як новае, яшчэ адно пакаранне за старыя ўчынкі, што супярэчыла расійскаму заканадаўству. У выніку Уласаву ўдалося адстаяць сваё рэдактарства, а значыць і газету. Але ж з Галоўнай управы па справах друку ў Віленскі часовы камітэт па справах друку быў скіраваны сакрэтны дакумент, які патрабаваў пільнага нагляду за газетай «Наша Ніва», а таксама за іншымі выданнямі Уласава. У далейшым некаторыя нумары газеты зноў падпадалі пад канфіскацыі і затрымліваліся на чыгунцы. У 1915 г. рыхтаваўся новы працэс супраць газеты і яе рэдактара, гэтым разам ужо Янкі Купалы... Але ваенныя падзеі і спыненне выхаду зрабілі гэтыя намаганні неактуальнымі.

Першая «Наша Ніва» на працягу ўсяго свайго існавання змагалася з фінансавымі праблемамі і мусіла адбівацца ад нападак цэнзуры і самадзяржаўнай прэсы. Але рэдакцыя газеты імкнулася максімальна выкарыстаць наяўнае прававое поле. Часам у справах «Нашай Нівы» суд не быў на баку расійскай паліцыі і органаў унутраных спраў. Рэдакцыя псіхалагічна і арганізацыйна была здольная вытрымаць удары цэнзурных органаў, што сталася вельмі важным для развіцця палітычных свабод у краі, найперш — свабоды слова.

# На «Супер-8» адчапілася кабінка з людзьмі



15 мая ў мінскім парку Чалюскінцаў ад атракцыёна «Катальная гара» адчапілася кабінка. Па сведчаннях відавочцаў, дзве дзяўчыны, што знаходзіліся там, правіселі ў кабінцы паўгадзіны. Пасля іх знялі супрацоўнікі парку.

Цяпер праводзіцца ўнутранае расследаванне прычын здарэння. Штогод перад пачаткам летняга сезона ўсе атракцыёны правяраюцца. Пакуль расследаванне не скончыцца, атракцыён запускаць не будуць.

«Катальная гара» з'явілася ў 2009 годзе на месцы «амерыканскіх горак» — «Супер-8». Працягласць атракцыёна складае 300 м, мініваганы падымаюць людзей на вышыню 14 метраў.

У 2008 годзе ў парку Чалюскінцаў абарваўся іншы атракцыён, «Карусель». Тады пацярпелі пяцёра дзяцей і дарослы. На шчасце, ніхто не загінуў.

**КМ**

## Рабочы забіў дырэктара

У Гомелі рабочы-мантажнік забіў дырэктара прадпрыемства ў службовым кабінеце.

Злачынства было здзейсненае прыкладна ў 10.00 10 мая, падазраваны затрыманы.

Паводле словаў начальніка аддзела, раніцай на прадпрыемстве, якое займаецца мантажом сістэм кандыцыянавання і вентыляцыі, пасля правядзення планёркі рабочы-мантажнік пасварыўся з кіраўніком, нанёс яму нажавое раненне ў вобласць сэрца і сышоў. Пасля яго сыходу ў кабінет зайшоў інжынер і ўбачыў, што дырэктар мёртвы.

Расследаваннем крымінальнай справы займаецца пракуратура. Пракурор раёна Дзяніс Мікушаў паведаміў, што канфлікт паміж дырэктарам і рабочым паўстаў на глебе таго, што рабочы месяц знаходзіўся ў адпачынку без захавання заробку. Ён абвінаваціў дырэктара ў тым, што кіраўнік не дае яму замоваў. Працоўны раней судзімы не быў, яму 27 гадоў, дырэктару быў 41 год. Вядзецца следства.

**БелаПАН**

## Сцісла

• **Задушыў жонку станікам.** У дачыненні да 55-гадовага мужчыны распачатая крымінальная справа за забойства. Са слоў падазраванага, 14 мая прыкладна ў 23.00 ён прачнуўся ад таго, што яго 54-гадовая жонка размаўляла па тэлефоне. Ён падумаў, што яна размаўляе з мужчынам. З рэўнасці сарваў з жонкі бюстгальтар і ім задушыў жанчыну. А гадзіне ночы мужчына, усвядоміўшы, што здзейсніў непапраўнае, патэлефанаваў у хуткую дапамогу. Медыкі канстатавалі смерць. Мужчына затрыманы. Раней ён судзімы не быў, нідзе не працуе. У момант злачынства быў нападпітку.

• **Маці гераіну са Светлагорска.** 45-гадовай жыхарцы Светлагорска выстаўлена абвінавачанне ў незаконным набыцці, захоўванні і збыце ў буйным памеры небяспечнага наркатычнага сродку. У супрацоўнікаў УКДБ меліся звесткі пра тое, што жанчына з'яўляецца адным з найбуйнейшых наркадылераў, што займаюцца распаўсюдам у Светлагорску гераіну. Злачынны бізнес дазваляў афіцыйна беспрацоўнай весці нябеднае існаванне. Каб не трапіць за краты, грамадзянка часта прыцягвала для збыту гераіну непаўналетняга сына. Пасля збыту чарговай партыі гераіну яе затрымалі супрацоўнікі УКДБ. Ідзе следства.

• **Мінчукі пастаўлялі з Расіі шпіёнскае абсталяванне.** Малагабарытныя відэа- і аўдыяпрылады былі замаскіраваныя пад бытавыя прадметы. У пастаўцы падазраюцца тры мінскія прадпрымальнікі. У час вобыску ў іх канфіскавана больш як 50 адзінак відэа- і аўдыязапісваючай апаратуры, а таксама радыёперадаючыя ўстройствы. Усё гэта прызначалася для незаконнага збору інфармацыі аб прыватным жыцці беларусаў з дапамогай схаванага вядзення запісу.

• **Падманула-падвяла. Мінчанка ўзяла з двух кавалераў 200 тысяч, а ад сэкс-паслуг ухілілася.** Двое сяброў пасля застолля вырашылі пацешыцца ў кампаніі прадстаўніц прыгожага полу. З такой прапановай яны звярнуліся да сустрэтай на вуліцы дзяўчыны. Тая адразу ацаніла свае «паслугі» ў 200 тысяч рублёў і нават пагадзілася прадаставіць для сустрэчы ўласную кватэру. Маладыя людзі пасля разліку накіраваліся ў госці. Ля пад'езда яна папрасіла іх пачакаць, а сама адышлася нібыта праверыць кватэру. Хлопцы прачакалі з гадзіну і звярнуліся ў міліцыю. У міліцыі ёсць падставы меркаваць, што ў яе «кар'еры» падобных эпізодаў нямала.

• **Праверка сігналізацыі ледзь не перарасла ў эвакуацыю.** Людзі пачалі масава сыходзіць з падземнага гандлёвага цэнтра «Сталіца», размешчанага на плошчы Незалежнасці ў Мінску, пасля таго, як па гучнай сувязі прагучала паведамленне аб неабходнасці ўсім работнікам і наведнікам пакінуць тэрыторыю гандлёвага цэнтра. Пры гэтым было настойліва рэкамендавана не карыстацца ліфтамі. Пазней выявілася, што ў «Сталіцы» мянялі пажарную сігналізацыю і для праверкі ўключылі сістэму інфармавання наведнікаў і персаналу пра небяспеку.

• **25-гадовая жыхарка Мінскай вобласці атрымала пяць гадоў за гандаль людзьмі.** Уступіў у сілу прысуд у дачыненні да 25-гадовай жыхаркі аднаго з райцэнтраў на захадзе Мінскай вобласці. Назва горада не называецца ў інтарэсах пацярпелых і следства. Абвінавачваная была замужам за грамадзянінам Турцыі і ўступіла ў злачынную змову з грамадзянамі гэтай краіны. Яна збірала ў Мінску і адным з райцэнтраў Мінскай вобласці маладых малазабяспечаных жанчын і пераконвала выехаць у Турцыю на нібы высокааплатную працу. Праца, паводле яе словаў, магла быць звязаная з аказаннем паслуг кліентам забаўляльных устаноў — а менавіта з сумесным распіццём спіртных напояў (занятак кансумацыяй). У Турцыі яна перадавала ахвяраў уласнікам начнога клуба. Тыя, ужываючы псіхалагічны ціск і фізічны гвалт, змушалі іх займацца кансумацыяй і забіралі ўсе атрыманыя грошы. Дзве пацярпелыя звярнуліся да прадстаўніка пасольства Беларусі, пасля чаго былі прыняты меры па іх вяртанні на радзіму. Астатнія вярнуліся дадому самастойна па заканчэнні дзеяння турыстычных віз.

• **Пяцікласнік і сямікласніца абакралі дачу.** Непаўналетнія жыхары вёскі Усоха-Буда Добрушскага раёна — вучань 5-га класа 2000 года нараджэння і вучаніца 7-га класа 1998 года нараджэння — абакралі адну з дач у вёсцы Андрэеўка. Разбіўшы шыбу, праніклі ў дом, адкуль выкралі прадукты харчавання і посуд.

• **У Мінску ў ДТЗ загінуў скутарыст.** Мужчына 1961 года нараджэння, які не меў правоў на кіраванне транспартным сродкам, рухаўся на скутары і падчас павароту налева не ўступіў дарогу аўтамашыне «Рэно-Меган-Сцэнік» , якой кіраваў мужчына 1972 года нараджэння. Адбылося сутыкненне. Кіроўца скутара атрымаў цяжкія траўмы і быў дастаўлены ў бальніцу, праз чатыры гадзіны памёр.

**СМ**

# Гэта наша мова, гэта нашы школы

Хутка набор у першы клас і малодшыя групы! Прапануем падрабязную інфармацыю, адрасы і кантакты беларускамоўных школ і садкоў.

### Мінск. Беларускамоўныя школы і гімназіі

**Гімназія №4 (Кунцаўшчына, 18)**: навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах.

E-mail: gymn4.minsk.edu.by, т.: (017) 258-49-71, 258-49-74.

**Гімназія №23 (пр. Незалежнасці, 45)**: выкладанне на высокім узроўні англійскай, кітайскай, польскай моваў.

E-mail: gymn23@minsk.edu.by; т.: (017) 284-47-62, 284-87-16.

**Гімназія №9 (Сядых, 10)**: паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае — польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла.

Т.: (017) 283-04-21, 281-38-04.

**Гімназія №28 (Ракасоўскага, 93)**: паглыбленае вывучэнне французскай мовы, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы.

E-mail: sch2@minsk.edu.by.; т.: (017) 248-32-02, 248-12-64.

**Гімназія №14 (Васняцова, 10)**: паглыбленае вывучэнне замежных моваў, спецкурсаў па міфалогіі, псіхалогіі, асновах эканамічных ведаў, журналістыцы. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музеі, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў.

Т.: (017) 295-01-33, 295-21-31.

**СШ №190 (Нікіфарава, 19):** выкладанне на беларускай і расійскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя і спартыўныя секцыі.

Т.: (017) 260-24-90; e-mail: sch190@minsk.edu.by.

**СШ №60 (Лібкнехта, 82)** — навучанне з музычным ухілам. У школе дзейнічаюць гурткі, клубы, музей, творчыя і грамадскія аб'яднанні.

Т: (017) 208-69-74, 209-94-49.

**СШ № 68 (зав. Ахоцкі, 17)**: набор у класы з фальклорна-тэатральным напрамкам.

E-mail: sch68@minsk.edu.by; т. (017) 243-76-82.

### Мінск. Белмоўныя класы ў расійскамоўных школах

СШ №11 (Асаналіева, 14) — школа з агульнаэстэтычным ухілам.

Т.: (017) 277-45-34, 275-59-10.

***

СШ №72 (Халмагорская, 59) — сёлета будзе набірацца адзін беларускамоўны першы клас. Дадаткова — вывучэнне англійскай мовы, мастацкі ўхіл.

Т.: (017) 246-53-71, 246-52-42.

***

СШ №108 (Уральская, 15) — спартыўныя гурткі і секцыі, вячэрнія класы.

E-mail: sch108@minsk.edu.by, т.: (017) 245-20-41.

***

СШ №131 (Убарэвіча, 74) — вывучэнне замежных моваў (нямецкай, польскай, французскай, іспанскай, шведскай), харэаграфіі.

Т.: (017) 340-62-38, 345-14-12.

***

СШ №180 (Радужная, д.8, корп.3) — паглыбленае вывучэнне англійскай мовы.

Т.: (017) 250-10-49.

***

СШ №209 (Рафіева, 91) — вывучэнне французскай мовы, вакальныя студыі, спартыўныя секцыі.

Т. (017) 274-69-71, 256-48-77.

***

СШ №110 (Брэсцкая, 66) — дзейнічае праграма «Здароўе».

Т. (017) 278-58-81, 278-11-12.

**У Брэсце маленькаму Франку шукаюць кампанію ў першы клас**

Бацькі Франка Ільіна з Брэста шукаюць сыну кампанію ў 1-ы клас з беларускай мовай навучання. Кантакты праз e-mail: soap@euroradio.fm.

### Гродна

СШ №32 (Ліможа, 11)

Т.: (0152) 48-50-48; 43-64-03.

### Магілёў

СШ №1 (Першамайская, 24)

Т.: (0222) 22-12-64; 31-07-85.

### Баранавічы

СШ №14 (Піянерская, 98)

Т.: (0163) 42-51-50.

### Дзіцячыя дашкольныя ўстановы Мінска, дзе ёсць беларускамоўныя групы:

Заводскі раён

ДДУ №202 (Партызанскі пр., 85а). Т.: (017) 245-12-92.

Кастрычніцкі раён

ДДУ №97 (Ландэра, 18). Т.: (017) 277-89-11, 277–49–20, ddu97@minsk.edu.by.

Ленінскі раён

ДДУ №101 (Якубава, 60). Т.: (017) 238-88-61.

Маскоўскі раён

ДДУ №412 (пр. Газеты Праўда, 64а). Т.: (017) 271-68-47.

ДДУ №473 (Ясеніна, 6/4). Т.: (017) 271-94-06.

ДДУ №541 (Ясеніна, 137). Т.: (017) 205-37-24.

Партызанскі раён

ДДУ №543 (Бумажкова, 39). Т.: (017) 235-36-02.

Першамайскі раён

ДДУ №220 (Каліноўскага, 11а). Т.: (017) 265-23-02.

ДДУ №273 (Каліноўскага, 89). Т.: (017) 263-06-84.

ДДУ №522 (Русіянава, 23). Т.: (017) 260-65-01.

ДДУ №66 (пр. Незалежнасці, 102а). Т.: (017) 264-60-52.

ДДУ№361 (Цікоцкага, 44). Т.: (017) 263-38-28.

Савецкі раён

ДДУ №314 (Багдановіча, 68а). Т.: (017) 234-25-61.

Фрунзенскі раён

ДДУ №534 (Матусевіча, 59). Т.: (017) 257-76-91.

ДДУ №570 (Чайлыткі, 28). Ёсць белмоўная група для дзяцей 4-5 год. Т.: (017) 315-60-44.

ДДУ №565 (Гарэцкага, 47). Будзе малодшая група. Т.: (017) 315-73-79.

Цэнтральны раён

ДДУ № 187 (Кахоўская,64а). Т.: (17) 213-06-71 — 6 груп, афіцыйна цалкам беларускі.

ДДУ № 218 (б-р Шаўчэнкі, 13). Т.: (017) 288-09-33.

ДДУ № 234 (Карастаянавай, 19). Т.: (017) 288-50-75.

ДДУ № 503 (Радужная, 4, корп.2). Т.: (017) 234-36-05.

**Падрыхтаваў Сямён Печанко**

**Да чытачоў.** Дасылайце ў Рэдакцыю інфармацыю пра беларускамоўнае навучанне ў вашай вобласці і раёне. Пішыце пра новыя ініцыятывы бацькоў і ўпраўленняў адукацыі.

## КАНЦЭРТЫ

### Neuro Dubel

**23 мая ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурта Neuro Dubel. **Пачатак а 19-й.**

### Філармонія: Манюшка, Штраус, Паганіні

**21 мая на сцэне Вялікай залы Белдзяржфілярмоніі (пр.Незалежнасці, 50)** — канцэрт ансамбля скрыпачоў «Капрыс». У праграме творы А.Вівальдзі, І.Штрауса, Н.Паганіні, М.Кажлаева, С.Манюшкі, Г.Свірыдава, П.Чайкоўскага, М.Дунаеўскага, К.-М.Вэбера. **Пачатак а 19-й.**

### Ганна Хітрык

**31 мая у Палацы культуры ветэранаў (вул.Купалы, 21)** — прэзентацыя дэбютнага альбому гурту Sounduk. Гурт стварыла спявачка і акторка Купалаўскага тэатра Ганна Хітрык пасля распаду яе першага праекта «Дзецідзяцей». **Пачатак а 19-й.**

### «Карміна Бурана» ў незвычайным выкананні

**20 мая ў Малой зале Белдзяржфілармоніі** прагучыць кантата Карла Орфа «Карміна Бурана» ў незвычайным выкананні: камерны хор Рэспублікі Беларусь, хор хлопчыкаў Sollers, фартэпіянны дуэт Наталлі Котавай і Валерыя Баравікова, ансамбль ударных інструментаў GRIG Percussion Group і ансамбль салістаў тэатра оперы і балета. **Пачатак а 19-й.**

### Князь Мышкін

**24 мая а 19-й у клубе «Лісіная нара» (вул.Каліноўскага 32)** — канцэрт ветэранаў беларускай псіхадэлічнай музыкі, гурта «Князь Мышкін». Бяруць удзел таксама: Віктар Жыбуль і Вера Бурлак, Аляксандр Памідораў, Zartipo, Маша Яр, «Балцкі субстрат», «Інфрачырвоны выдых».

### Крыс дэ Бург з Прэзідэнцкім аркестрам

**22 мая ў Вялікай зале Палаца Рэспублікі** — канцэрт ірландскага рамантыка Крыса дэ Бурга пры ўдзеле Прэзідэнцкага аркестра Беларусі. **Пачатак а 19-й.**

### Блюзавы гармонік

**19 мая ў Палацы рэспублікі** — блюзавы вечар «Джэймс Котан — Трыумф Блюзавага гармоніка». **Пачатак а 19-й.**

### Avenir-Band

**25 мая ў Тэатры беларускай драматургіі (вул.Крапоткіна, 44)** — канцэрт легенды беларускага джазу Avenir-Band. У праграме — класічныя джазавыя кампазіцыі 1950-х. **Пачатак а 19-й.**

### Квартэт Уладзіміра Міхновіча

**25 мая ў «Графіці»** — джазавы квартэт саксафаніста і піяніста Уладзіміра Міхновіча. **Пачатак а 19-й.**

### «Нагуаль»

**19 мая ў «Графіці»** выступае псіхадэлічны гурт «Нагуаль». **Пачатак а 19-й.**

## ІМПРЭЗЫ

### Ноч музеяў у Гродне: гульні, фокусы і бодзі-арт

**Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей 21 мая** ладзіць традыцыйнае мерапрыемства «Ноч у музеі», прысвечанае міжнароднаму дню музеяў. Сёлета музей падрыхтаваў свята «Таямніцы азарту». Наведнікі маюць магчымасць пазнаёміцца з гісторыяй азартных гульняў, пабачыць фокусы, бодзі-арт, даведацца, як раскладаюць карты прафесійныя крун'е і іншае. Падчас свята будзе паказаны спектакль Тэатра лялек «Пікавая дама». У Старым замку арганізуецца экскурсія да помніка археалогіі Ніжняй царквы і аповед пра гісторыю археалагічных даследаванняў на Замкавай гары.

**Пачатак «Ночы ў музеі» ў 20.00.** Тэлефон для даведак: 74-33-60. Кошт квітка 15 000 руб. (квіткі можна набыць у Новым і Старым замках).

### Design Фармат

**Ад 25 да 28 мая ў выставачным цэнтры «БелЭкспа» (вул.Купалы, 27)** пройдзе міжнародная спецыялізаваная выстава «Design Фармат». Можна будзе пабачыць навіны сучаснага дызайну, даведацца пра вядучых дызайнераў, кампаніі, што працуюць на беларускім і замежным рынку, навучальныя ўстановы, дзе можна навучыцца на дызайнера.

### ДзіКаVaТа

**19 мая ў Беларускім педагагічным універсітэце** пройдзе конкурс моды, фота і авангарднага мастацтва «ДзіКаVaТа». У конкурсе возьмуць удзел больш за 40 дызайнераў з Беларусі, Расіі, Літвы, і Германіі, 10 беларускіх і украінскіх фатографаў, больш за 100 мадэляў.

## ВЫСТАВЫ

### Кранальная выстава

**У Мастацкім музеі (вул.Леніна, 20) да 18 чэрвеня** працуе выстава скульптуры — «Кранальная выстава». На ёй можна ўбачыць творы Алега Варвашэні, Андрэя Вараб'ёва, Аляксандра Мінькова, Дзмітрыя Аганава, Сяргея Аганава, Андрэя Асташова. Назву выставы трэба разумець літаральна — экспазіцыя павінна пашырыць межы ўяўленняў аб класічным музеі, дзе зазвычай забаронена датыкацца да экспанатаў.

### Дымкі

**У Доме прыроды (вул.Багдановіча, 9а)** працуе мастацкая выстава «Дымкі» Алены Хатэнка. На выставе прадстаўлена звыш 70 яе прац, стыль іх выканання ўнікальны і каларытны.

### Японская парцаляна — выстава ў падтрымку пацярпелых ад землятрусу

**Да 31 мая ў Музеі гісторыі Мінска (вул.Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Японская парцаляна XVII — пачатку XX стст. у палацавым аздабленні». Выстава арганізаваная ў падтрымку горада-пабраціма Мінска — Сендая, што пацярпеў ад землятрусу.

### Сучасны польскі жывапіс

**У Музеі сучаснага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** да 5 чэрвеня працуе выстава «Сучасны польскі жывапіс». На выставе прадстаўленыя творы найбольш вядомых мастакоў — выкладчыкаў Акадэміі мастацтваў у г. Катавіцэ — праф. Яцэка Рыкалы, праф. Казімежа Цесьліка, праф. Багдана Топара.

### Новае жыццё старадаўніх абразоў

**У Мастацкім музеі да 22 мая** працуе выстава абразоў і алтарных карцін «Адкрыццё святой прыгажосці». На выставе экспануюцца дзесяць твораў тэмпернага і алейнага жывапісу XVII—XIX стст.

### Выцінанка

**Да 4 чэрвеня ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава выцінанкі Надзеі Букі. Вожык на дне бутэлькі, панда з гузікам на пысе, мандарыны на снезе — фантазіі мастачкі, увасобленыя ў творах.

### У гонар Генрыка Сянкевіча

**У бібліятэцы імя Якуба Коласа НАНБ (вул.Сурганава, 15)** працуе выстава «Летапісец гісторыі Польшчы (да 165-годдзя з дня нараджэння Г. Сянкевіча)», падрыхтаваная аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі сумесна з Польскім Інстытутам у Мінску. На выставе экспануюцца выданні 1887–2009 гг.

### Перасоўнікі XXI стагоддзя

**У «Мабільнай галерэі» Нацыянальнай бібліятэкі да 20 мая** працуе 31-я мастацкая выстава Таварыства перасоўных мастацкіх выставак «XXI стагоддзе» (Санкт-Пецярбург). У Мінск выстава трапіла пасля вандроўкі па гарадах Еўропы. У экспазіцыі прадстаўлена каля 90 работ 36 жывапісцаў, графікаў і скульптараў з розных гарадоў Расіі.

### Выстава афорта

**У галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі да 28 мая** працуе выстава кіеўскай мастачкі Галіны Бадзяковай «Жыць — летуценіць». Бадзякова — прызнаны майстар афорта.







## ТЭАТРЫ

### 18 мая

**Оперы і балета** — «Дон-Кіхот»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Юнага гледача** — «Крыху Пяшчоты»

### 19 мая

**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Оперы і балета** — «Жызэль»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»

### 20 мая

**Оперы і балета** — «Шапеніяна. Пахіта. Трыстан і Ізольда»
**Юнага гледача** — «Пан-міністр»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Купалаўскі** — «Вечар»

### 21 мая

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

### 22 мая

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 23 мая

**Купалаўскі** — «Дзеці Ванюшына»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»

### 24 мая

**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

### 25 мая

**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»

### 26 мая

**Лялек** — «Вянчанне»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 27 мая

**Купалаўскі** — «Вяселле»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Лялек** — «Вянчанне»

### 28 мая

**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлерой»
**Купалаўскі** — «Вяселле»

### 29 мая

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

## КІНО

### Ханна. Дасканалая зброя

**Hanna**
ЗША — Нямеччына — Вялікабрытанія, 2011, каляровы, 111 хв.
**Рэжысёр:** Джо Райт
**Жанр:** Баявік пад музыку
**Адзнака:** 3 (з 10)

У глухім лесе бацька вучыць Ханну забіваць. Аднойчы ў іхнюю хатку прыйдуць ворагі. Але Ханна ўзгадаваная, каб адпомсціць.

Карціна Джо Райта — баявік з артхаўзнымі прэтэнзіямі, амаль няспыннай музыкай і меланхалічнымі намёкамі на праблемы сталення. Экран бачыў розных забойцаў: дзяўчынак-карацістак, закаханых французскіх агентак, вампірак, замаскаваных пад школьніц. Ханна — чарговае ўвасабленне гэтага шчасця.

Яна ніколі не чула музыкі, гаворыць урыўкамі з энцыклапедыі — і здольная заваліць любога бугая. Нямецкія ўдзельнікі кінагрупы радуюць гламурнымі спасылкамі на братоў Грым. Але болей узгадваецца іншы фільм: «Бяжы, Лола, бяжы!» — тыя ж доўгія кадры і электрычная музыка.

А лепей бы і не прыбягала.

**Андрэй Расінскі**



# Нашы цуды свету

Ці варта адпраўляцца за тысячы кіламетраў, марнаваць дэфіцытную валюту, калі сусветна славутыя збудаванні можна пабачыць і ў роднай краіне? Бо ў Беларусі ёсць нават… свая піраміда.

**У свеце: хмарачос Нормана Фостэра ў Лондане**
**У Беларусі: Нацыянальная бібліятэка ў Мінску**

Лонданская вежа Мэры-Экс, у якой месціцца штаб-кватэра адной з найбуйнейшых у свеце страхавых кампаній Swiss Re, за авальную выцягнутую форму і зеленкаватае адценне шкла атрымала ў народзе мянушку «агурок». У будынка Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску таксама ёсць народная назва з гастранамічным адценнем — «чупа-чупс». І хай архітэктарам «дыямента ведаў», як яшчэ завуць бібліятэку, з'яўляецца не Норман Фостэр, а дуэт В.Крамарэнкі і М.Вінаградава, ромбакубаактаэдр нязменна прыцягвае гасцей беларускай сталіцы. Нават нягледзячы на тое, што часопіс Travel + Leisure уключыў бібліятэку ў спіс самых выродлівых будынкаў сучаснасці.

**У свеце: Аныткабір у Анкары**
**У Беларусі: Палац Рэспублікі**

Дастаткова мімалётам зірнуць на абодва будынкі, каб зразумець: Палац Рэспублікі і маўзалей Мустафы Кемаля Атацюрка — архітэктурныя двайняты. Іх роднiць і яшчэ адна акалічнасць: і палац, і маўзалей — даўгабуды. Праўда, магільны склеп бацькі турэцкага народа пабудавалі ўсяго за восем гадоў, у той час як будаўніцтва Палаца Рэспублікі расцягнулася амаль на дваццаць. Як бы там ні было, атрымаць уяўленне пра галоўны будынак Турцыі можна, прагуляўшыся вакол будынка на Кастрычніцкай плошчы.

**У свеце: піраміда Хеопса ў Гізе**
**У Беларусі: фамільны склеп Завішаў у Аброці**

На мяжы XVIII і XIX стагоддзяў французскае войска на чале з маладым амбітным генералам Напалеонам Банапартам паспрабавала захапіць новыя землі на Поўначы Афрыкі. У Егіпецкай кампаніі бралі ўдзел і шляхцічы Рэчы Паспалітай, якія, як і ўсе ўдзельнікі таго паходу, захапіліся Егіптам. Беларусы ў якасці сувеніраў прывозілі з той «замежнай паездкі» самыя розныя старажытнаегіпецкія штучкі. Пагаворваюць, што некаторыя не паленаваліся прыхапіць нават парачку мумій у саркафагах. А прадстаўнікі роду Завішаў, натхнёныя паходам, вырашылі ў 1800 годзе ў мястэчку Аброць збудаваць сапраўдную «егіпецкую» піраміду — фамільны склеп і капліцу. Таму здзіўляцца архітэктурнаму цуду можна і ў межах Беларусі, без шматгадзіннага пераезду па пустыні і цяжкай спякоты.

**У свеце: вежа Жанны д'Арк у Руане**
**У Беларусі: Камянецкая вежа**

Адным са знакаў сярэднявечнай Еўропы лічыцца данжон — галоўная вежа ў феадальных замках. Падобныя збудаванні, якія ўпершыню з'явіліся ў Нармандыі ў XI стагоддзі, служылі аднachасова і рэзідэнцыяй сеньёра, і абарончай крэпасцю, а часта яшчэ і складам зброі, і студняй. Кароль Францыі Філіп II Аўгуст, ён жа Філіп Крывы, выкарыстоўваў данжон як турму: у падзямеллі вежы замка ў Руане трапіла палонная Жанна д'Арк. Вежу ў Камянцы ўзвялі стагоддзем пазней за аналагічныя збудаванні ў Францыі, але ўсё адно яна апынулася першым каменным данжонам на ўсю акругу, да таго ж вылатна захаваным дагэтуль. Таму, каб вывучыць гісторыю абарончых збудаванняў Еўропы, дастаткова здзейсніць паездку на Берасцейшчыну.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**У свеце: віла Трывулзіна на возеры Кома ў Італіі**
**У Беларусі: сядзіба Радзівілаў у Паланечцы**

Шчыра кажучы, падобных аналогій у Беларусі дастаткова шмат. Самыя відавочныя паралелі — палацава-паркавыя ансамблі ў Нясвіжы і Версалі. З менш вядомых — сядзіба Умястоўскіх у Жамыслаўлі, што на Іўеўшчыне, якая ўяўляе сабою паменшаную копію каралеўскага палаца ў Лазенках у Варшаве. Беларускія магнаты, як і заможныя арыстакраты іншых краін, папросту наймалі знакамітых майстроў для будаўніцтва рэзідэнцый.

Зараз, каб улавіць водбліскі былой велічы, трэба пастарацца: большасць цікавых будынкаў, выкананых у лепшых еўрапейскіх традыцыях, рызыкуе знікнуць назаўжды.

**Таццяна Чудак, «Турызм і адпачынак»**

## Сапраўдная беларуская кухня

### Бланманжэ…

### …вяршковае

1,5 л вяршкоў, 400 г цукру, 200 г салодкага міндалю, 30 штук горкага міндалю, 40 г жэлаціну.

Міндаль дробна стаўчы, развесці гарачымі вяршкамі, адціснуць аршад (так завецца напітак з міндалю, накшталт ліманаду), засаладзіць і развесці жэлацінам, распушчаным у шклянцы гарачай вады. Жадаючы мець бланманжэ ў двух колерах, трэба падзяліць аршад і адну палову развесці жэлацінам белым, а другую — чырвоным.

### …з шакаладу

200 г шакаладу, 1,5 л малака, 200 г салодкага міндалю, 100—150 г горкага міндалю, 300 г цукру, 40 г жэлаціну.

Шакалад нацерці на тарцы, усыпаць у рондалік і вымешаць лыжкай на агні, каб пачарнеў. Заліць малаком, зрабіць аршад з тоўчанага салодкага міндалю і некалькіх штук горкага, працадзіць, развесці аршадам шакалад, засаладзіць цукрам, укласці жэлацін, перамяшаць, пераліць у форму і паставіць на лёд.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Кухарка літоўская», 1854.**
**Падрыхтавала НБ**

## Прыватныя абвесткі

**ВІТАННІ**

**Віншуем Наталлю Бабіну**, якой 15 мая споўнілася 45 гадоў, з днём нараджэння. Чакаем новага рамана і зычым усяго-усяго, што толькі трэба чалавеку. У Вас гэта ёсць — і сіла, і мэта, і хараство душы. Проста няхай Вы ўсё гэта захаваеце. Прыхільнікі таленту.

**КНІГІ, МУЗЫКА**

**Кніжкі былых бумбамлітаўцаў**, «Тэксты»-2007, «Partisan» № 5 танна прадам. Т.: (029) 332-69-56. Святлана.

**Прапаную калекцыю беларускай музыкі** розных жанраў: ад калыханак — да класікі. Т.: (029) 615-47-76.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Цягніком ад Мінска да Вільні — за тры гадзіны

Таксама аднаўляецца цягнік на Рыгу.

Ад 29 мая даехаць цягніком ад Мінска да Вільні цяпер можна будзе роўна за тры гадзіны. Раней працягласць маршруту складала чатыры з палова гадзіны. Цяпер Беларуская чыгунка ўводзіць новы маршрут. Раніцай цягнік ад Мінска да Вільні будзе адпраўляцца ў 7:45 і прыбываць у Вільню ў 10:45, увечары цягнік таксама будзе ісці тры гадзіны, адпраўляючыся ў 18:49.

З таго ж дня аднаўляюцца чыгуначныя зносіны паміж Мінскам і Рыгай. З Мінска ён будзе адпраўляцца ў 20.07, прыбываць у Рыгу — у 8.00. Час яго адпраўлення з Рыгі — 19.00, прыбыцця ў сталіцу Беларусі — 7.31.

**АГ**



ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА

## Птушкі прыляцелі незвычайна позна

Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) перанесла акцыю «Салаўіныя вечары» з 14 мая на 21 мая. Гэта звязана з тым, што салаўі прыляцелі пазней, чым у мінулыя гады, і спяваюць неахвотна. Прычынай позняга прылёту салаўёў, магчыма, з'яўляецца пахаладанне ў пачатку мая. За апошняе дзесяцігоддзе гэта самы позні прылёт салаўёў у краіну.

Паслухаць салаўёў у Мінску можна ў Цэнтральным батанічным садзе і Мінскім заапарку.

Вынікам «салаўіных вечароў» у Мінску будзе распрацоўка «салаўінай карты». Паўдзельнічаць у яе складанні можа кожны. Дастаткова, пачуўшы ці ўбачыўшы салаўя, пазваніць у АПБ і паведаміць па тэлефонах: (017) 263-06-13, 263-01-30, (029) 101-68-87, (029) 223-06-13 або адправіць SMS-паведамленне на кароткі нумар 0841. Усе, хто дашле SMS, змогуць скачаць рэалтон з песняй салаўя.

**Паводле БелаПАН**

ТЭХНАЛОГІІ

## Samsung стварыў нэтбук з зарадкай ад сонца

Версія для Афрыкі. І для летніх падарожжаў па Беларусі?

Карпарацыя Samsung прадставіла ў кенійскай сталіцы Найробі прататып нэтбука з магчымасцю зарадкі ад сонечных батарэй. Навіна, разлічаная на выкарыстанне ў раёнах з абмежаваным доступам да электрычнасці, атрымала назву NC215S.

**ЯВ**

ЗДАРОЎЕ

## Аказалася, страчкі і смаржкі атрутныя

Ад пачатку года ў Беларусі зарэгістравана 39 выпадкаў атручэння грыбамі. Смяротных выпадкаў, на шчасце, не было.

Некаторыя атруціліся сабранымі смаржкамі і страчкамі, якія вельмі падобныя і з'яўляюцца ў адзін і той жа час — вясной. Абодва гэтыя віды ўтрымліваюць небяспечную атруту — гельвелавую кіслату. Акрамя гэтага, у страчках утрымліваецца моцны яд гірамітрын, які не разбураецца і не пераходзіць у адвар пры доўгім кіпячэнні.

Спецыялісты рэкамендуюць збіраць толькі вядомыя грыбы; не браць перарослых, друзлых, не каштаваць падазроныя грыбы на смак. Акрамя таго, трэба саліць, сушыць, марынаваць кожны від грыбоў асобна; перад адварваннем старанна мыць грыбы; абавязкова зліваць ваду пасля адварвання.

**Паводле БелаПАН**



**Так выглядаюць страчкі, прызнаныя атрутнымі.**




**Эксцэнтрычны пратэст. 11 мая на Майдане Незалежнасці ў Кіеве актывісткі ўкраінскага жаночага руху Femen пратэставалі супраць рэпрэсій у Беларусі. У прыватнасці, супраць таго, што нават жонку кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, Ірыну Халіп, пасадзілі. Дзяўчаты з Femen зрабілі «жывыя рагаткі» з уласных ног і «стралялі з іх яйкамі і памідорамі ў вялікую выяву Лукашэнкі.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**15 мая ў Дзень памяці ахвяраў СНІДу прайшла малітоўная акцыя «Свечка адзінства».**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Хутка канікулы!**




SVABODA.ORG

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

## Анекдоты

* * *

Падслухана каля абменніка. Мужчына пытаецца ў касіркі:

— У вас можна штосьці купіць?

— Латарэйныя білеты «Суперлато» і «Кена».

* * *

Пабіліся два настаўнікі матэматыкі! Кажуць, нешта не падзялілі.

* * *

— Купіла блінчыкі з мясам і знайшла ў іх кавалак гумовай пальчаткі.

— Які жах!

— Наадварот, гэта добра. Значыць, блінчыкі робяцца з захаваннем санітарных нормаў ...

* * *

У аптэцы.

— У вас ёсць які-небудзь надзейны абязбольвальны сродак?

— Хлопчык, а што табе баліць?

— Пакуль нічога, але тата ўжо пайшоў на бацькоўскі сход.

* * *

Надпіс у цэху: «Праца без пальчатак забароненая! Штраф 380 вольт!»

## «НН» сто гадоў з вамі

**У сталіцы Францыі Парыжы 8 мая былі выпthe выпадкі на аэрапланах, або машынах да лётання ў паветры.** Сабралася блізка 200 тысяч народу глядзець на гэта. Прыехаў ваенны міністр Берто і старшыня міністраў Маніс. Публіка прарвала ланцуг салдатаў і ўварвалася на пляц. Часць публікі ачысцілі, але сярод пляцу засталася жменька асоб, сярод якіх былі Берто і Маніс. Падняўся вялікі аэраплан, але яго скруціла ветрам і кінула ўніз з страшэннай сілай. Берто падняў руку над галавой, але яе адарвала і адкінула далёка, і ў той жа час аэраплан пераламаў яму хрыбет і разарваў яго на кавалкі. Крыло ж захапіла Моніса, паламала яму грудзі, ногі, вырвала нос і абдзёрла векі. Ваенны міністр памёр. Старшыня міністраў цяжка хворы.

**«НН». №18—19. 1911.**

**Сапраўднай сенсацыяй стала заява кіраўніка канцэрна «Белэнэрга» Яўгена Мішука,** што, каб зменшыць залежнасць ад імпарту электраэнергіі, рана ці позна на тэрыторыі Беларусі давядзецца будаваць уласную АЭС.

**«НН». № 19. 2001.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7270.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 17.05.2011.
Замова №. 2326.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12